*Дзякуй за тое, што Вы прачыталі гэты нумар. Адгукніцеся, калі ў Вас ёсць заўвагі, меркаванні, прапановы.* **Тэл. (8 017) 328 68 71**

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*
***Якуб КОЛАС***

**№ 8 (4466)**

28 студзеня 2020 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.




# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

ФАКТ

## Ёсць першая партыя нарвежскай нафты!




Так, адкрытае акцыянернае таварыства «Нафтан», што ў Наваполацку, прыступіла да перапрацоўкі першай партыі нарвежскай нафты, якая раніцай 26 студзеня была дастаўлена чыгункай з Клайпедскага порта.

– Адлегласць ад нарвежскага берага, дзе праходзіла пагрузка ў танкер, да нашага прадпрыемства, а гэта 2,3 тысячы кіламетраў, нафта пераадолела менш як за 7 сутак, – паведаміў генеральны дырэктар ААТ «Нафтан» **Аляксандр Дзямідаў**.

АФІЦЫЙНА

### Пампеа ўсё-такі прыедзе

Дзяржаўдэпартамент ЗША на сваім сайце анансаваў візіт у Беларусь 1 лютага дзяржаўнага сакратара Майкла Пампеа.

Як паведамлялася, рабочы візіт Майкла Пампеа ў Беларусь планаваўся на 4 студзеня, але быў перанесены на 1 лютага ў сувязі з сітуацыяй вакол пасольства ЗША ў Іраку і далейшымі падзеямі.

ЗНАЕТЕ ЛИ ВЫ...

*С завершением модернизации на Мозырском НПЗ глубина переработки нефти возрастет с 77–78 до 90 процентов, выработка светлых, более ликвидных, нефтепродуктов – с 63 до 69–70 процентов.*

СКАЗАНО!

## Александр ЛУКАШЕНКО: О налоговом маневре

«Когда-то мы получали нефть, лет пятьшесть назад, с половиной таможенной пошлины. Но они (*россияне.* – **Ред.**) совершили маневр. Взяли эту половину, которую мы получали, реализуя нефтепродукты – свой товар. Отобрать ее неудобно, и они совершили маневр – ввели у себя налог на добычу полезных ископаемых и этим самым подняли цену на нефть. Постепенно по 15–20% подвели нас к мировой цене. Мы сегодня имеем 18–20% всего лишь от этой таможенной пошлины».

«Мы поставили вопрос: братья, дорогие, старший брат, так же не поступают. Нельзя же нас за дураков держать. Там это взяли, в налог внесли. Притом до цента, до доллара. Ни больше ни меньше, именно столько. И когда мы стали разбираться, мне напрямую доложили люди, которые готовили эти нормативно-правовые акты, законы, указы, постановления правительства, что это сделано специально. Чтобы надавить на Беларусь».

«Зачем надавить, догадайтесь с трех раз. Разные были теории, заключения и прочее. Вы их слышали. И все они, наверное, имеют место».

### «Я абсолютно договороспособен...»

«Чего драться (*за цену на нефть.* – **Ред.**)? Это их товар, они приняли такое решение. В том числе и по политическим мотивам, в том числе из-за недоговороспособности Батьки Лукашенко. Так они пишут и «плявузгают» сейчас во всех средствах массовой информации. Я абсолютно договороспособен. Но что это за союз, если мы начинали в товарообороте с ними в плюсе, а сегодня минус 9 млрд долларов. И каждый год нам ухудшают положение».

«Они просто просчитались. Они думали, что (утрируя скажу) дадут мне ключи от склада, и я побегу в Россию, тоже буду богатым, пушистым, белым, красивым... Не надо. Я буду работать в своей стране, чего бы мне это ни стоило».

### О президентском сроке...

«У нас есть своя страна. Мы суверенны и независимы. Мы своими мозгами и руками, что смогли, заработали, строим свою страну. И мы не можем быть частью какой-либо страны. Я не могу вас предать и растворить Беларусь, пусть даже в нашей братской России».

«Я не хочу быть последним президентом Беларуси. Почетно быть первым, но последним быть не хочу. Я хочу, чтобы дети наши жили на этом клочке земли в мире, согласии».

*(Из выступления во время посещения в Шклове Завода газетной бумаги.)*

СКАНДАЛ

## Несахарная должность

***Похоже, в Беларуси разгорается новый коррупционный скандал. На сей раз связанный с директорами крупных предприятий.***

В пятницу 24 января рейс авиакомпании из Минска в Мюнхен прибыл с большой задержкой. Вначале было потеряно немало времени в аэропорту при взлете, а затем самолет развернули на подлете к Вроцлаву и посадили в Гродно. С борта сняли как минимум шесть человек! Несмотря на то что эту историю обсуждают уже четвертый день, официальных комментариев ни от спецслужб, ни от авиакомпании «Белавиа» на вчерашний вечер еще не было.

По неофициальной информации, среди тех, кого люди в форме сняли с самолета, оказались директор Городейского сахарного комбината **Михаил Криштапович** и директор Слуцкого сахарного комбината **Николай Прудник.**

Какие претензии к ним у правоохранительных органов? На момент подписания этого номера «Народной Воли» официальной информации не было.

Однако, как выяснилось, вчера на работе отсутствовали директора всех сахарных заводов страны!

В ближайшее время подробности этого странного дела, конечно же, будут известны, появятся какие-то комментарии. Однако «Народная Воля» взглянула на эту ситуацию с другого ракурса. Директорская должность – совсем не сахарная. И найти человека, который сегодня с большим желанием согласится возглавить пусть даже успешное предприятие, – настоящая проблема!

– Вероятно, в ближайшее время нам объявят причины задержания всех четырех руководителей предприятий, и, скорее всего, среди них будут и злоупотребление служебным положением, и коррупция, – *не исключает такого развития сценария бывший чиновник, а ныне председатель Белорусского конгресса демократических профсоюзов* **Александр Ярошук**. – Не берусь оспаривать, имели ли действия правоохранителей под собой основания, преступали ли руководители закон. Хочу сказать о другом – о личностях самих директоров, теперь уже, скорее всего, находящихся в статусе подозреваемых в совершении преступлений.

Начну с директора Городейского сахарного комбината Михаила Криштаповича. Его я знаю больше 25 лет. Более того, как первый заместитель председателя Минского облисполкома, даже пролоббировал его выдвижение в 1997 году на должность руководителя предприятия, которое к тому времени находилось в критическом состоянии. Меня поддержал тогдашний министр сельского хозяйства и продовольствия **Василий Леонов.** И Михаил Криштапович сотворил настоящее чудо: сделал комбинат за истекшие годы образцовым, на уровне добротных мировых стандартов. Криштапович близкий мне по духу человек. В последнее время мы редко, но пересекались с ним – он был членом Совета Республики, вовлечен в общественную жизнь страны, появлялся на различных мероприятиях, приемах.

Михаил был не просто директором завода, он был идеологом реформирования отрасли в целом. И сегодня сахарная отрасль Беларуси – лучшая на всем постсоветском пространстве.

Такие самородки, как Михаил Криштапович или директор Слуцкого сахарного комбината Николай Прудник, – уникальные личности, элита нынешнего директорского корпуса страны! Николая Прудника я знаю меньше, он сам агроном по специальности. Но с его приходом Слуцкий комбинат тоже добился успехов. Сегодня это одно из лучших предприятий.

Но вся трагедия директоров заключается в том, что реализовать свой выдающийся потенциал современных менеджеров и достичь впечатляющих результатов они не могли иначе, кроме как сознательно нарушая многочисленные инструкции и правовые акты, часто противоречащие один другому, выходя за рамки бесчисленных ограничений.

Директора сегодня – как расходный материал. Они должны реализовать весь свой выдающийся потенциал, но при этом быть бессребрениками, не иметь ни гроша за душой. Но выдающиеся менеджеры должны иметь соответствующую зарплату – пропорционально своим талантам и успехам.

Прошли те времена, когда ты выкладываешься полностью, а получаешь копейки. Это ненормальная экономическая и кадровая ситуация.

Я не адвокат Михаила Криштаповича и Николая Прудника, как и других директоров сахарных заводов. Влезли они в криминал или не влезли, брали или не брали, мне представляется куда менее существенным фактом, чем понимание того, что в стране выстроена такая губительная система, при которой руководители предприятий, исполняя свои служебные обязанности, ходят словно по минному полю! В выигрыше оказываются те, кто не берет на себя никакой ответственности, ничего не нарушает, никуда не влезает, но и ничего не делает. Именно такие посредственности сегодня востребованы, именно они олицетворяют кадровую политику власти, и именно они заводят экономику Беларуси в тупик. А Михаила Криштаповича, Николая Прудника, вероятно, ожидают наручники и навешивание ярлыков коррупционеров и виновников всех бед, постигших страну...

**Марина КОКТЫШ.**

ЧУЛІ?

### КДБ затрымаў галоўнага змагара са «зладзеямі ў законе» Уладзіміра Ціхіню



Затрыманы былы начальнік 2-га аддзялення ГУБАЗіК МУС Уладзімір Ціхіня. Пра гэта паведаміў «Нашай Ніве» яго сын.

«Бацька быў затрыманы 24 студзеня, знаходзіцца ў СІЗА КДБ», – патлумачыў ён.

Сын сцвярджае, што затрыманне не звязана з атрыманнем хабару, пра што паведаміў тэлеграм-канал **Нехта**.

Уладзімір Ціхіня яшчэ з 1990-х гадоў лічыўся галоўным змагаром са «зладзеямі ў законе». Ён быў адпраўлены ў адстаўку ў снежні 2019 года.

СУД

## Экс-дэпутатаў Вярхоўнага Савета Пятра Садоўскага і Лявона Баршчэўскага пакаралі штрафамі за ўдзел у акцыі супраць інтэграцыі з Расіяй

Былых дэпутатаў Вярхоўнага Савета Пятра Садоўскага і Лявона Баршчэўскага суд Цэнтральнага раёна Мінска аштрафаваў за ўдзел у акцыі супраць паглыблення інтэграцыі з Расіяй, у абарону незалежнасці Беларусі.

Абодва палітыкі прыйшлі на пасяджэнне суда і даводзілі незаконнасць іх пераследу, але абодвух пакаралі штрафамі па 810 рублёў.

«Гэта была прафанацыя судовага працэсу, сведкі пайшлі на службовы падлог, няпраўдзівыя сведчанні. Замест аператыўных здымкаў суд выкарыстаў анлайн-трансляцыі Радыё Свабода і «Белсата». У судзе я працытаваў закон аб СМІ, даводзіў, што гэтыя відэаматэрыялы не могуць разглядацца як доказы ў судзе, што яны не маюць права без дазволу карыстацца імі, што не было даты і часу», – сказаў Лявон Баршчэўскі.

Суд над Пятром Садоўскім таксама прайшоў без уліку довадаў абвінавачанага, у такім самым абвінаваўчым ключы, паведаміў Баршчэўскі.




З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

## Алена АНІСІМ: «Запросім і дзяржаўных чыноўнікаў...»

*Сустаршыня аргкамітэта па падрыхтоўцы Усебеларускага кангрэса за незалежнасць распавяла «Народнай Волі» пра тое, як ідзе падрыхтоўка да форуму.*

Нагадаем, што кангрэс плануецца правесці ў дзень Канстытуцыі, 15 сакавіка. У склад аргкамітэта акрамя прадстаўнікоў партый і рухаў увайшлі таксама міжнароднае грамадскае аб'яднанне «Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына», Беларуская аўтакефальная праваслаўная царква і грамадская дырэкцыя народнага мемарыяла Курапаты.

– Ужо вызначыліся з квотамі на гэтае мерапрыемства, а зараз інтэнсіўна шукаем памяшканне, дзе можна было б правесці кангрэс, – кажа **Алена АНІСІМ**. – Кожны з сустаршыняў мае, як кажуць, свой фронт работы і накірунак, па якім працуе.

**– Якое будзе прадстаўніцтва на мерапрыемстве?**

– Пасля абмеркаванняў вырашылі, што ад партый і зарэгістраваных арганізацый, у якіх больш за тысячу сябраў, будзе квота на кангрэс – па 40 чалавек. Для іншых квота – 20 чалавек, і, акрамя таго, маецца магчымасць вылучыцца ад грамадскасці шляхам збору подпісаў. Калі нехта хоча стаць дэлегатам Кангрэса за незалежнасць, ён павінен правесці сход з дзесяці чалавек і абрацца ад гэтага сходу.

На сённяшні дзень мы плануем, што на мерапрыемстве будзе прысутнічаць 500 чалавек. Не больш.

**– Праблемы з памяшканнем для правядзення кангрэса не будзе?**

– Мы правяраем розныя варыянты, бо не паўсюль ёсць залы з такой умяшчальнасцю. Але ў бліжэйшыя дні гэтае пытанне павінны вырашыць, бо трэба ж і далей будаваць планы.

**– Раней была інфармацыя, што ў выпадку, калі ўлады не дазволяць правесці кангрэс у Мінску, магчыма яго правядзенне ў Вільнюсе. Гэта так?**

– Пакуль гэты варыянт нават не разглядалі.

**– Хто з ганаровых гасцей будзе запрошаны?**

– Па-першае, у нас будзе прадстаўлена Рада кангрэса, якая была абрана ў 2014 годзе, і там ёсць шэраг знакавых асоб: акадэмік Радзім Гарэцкі, былы старшыня Вярхоўнага Савета Мечыслаў Грыб, экс-суддзя Канстытуцыйнага суда Міхаіл Пастухоў, Алег Трусаў і Уладзімір Колас...

Але поўны спіс запрошаных пакуль агучыць не магу, ён яшчэ не гатовы. Хачу толькі адзначыць, што на форум плануем запрасіць і некаторых дзяржаўных чыноўнікаў.

**– Правядзенне такога маштабнага мерапрыемства патрабуе немалых фінансаў...**

– Безумоўна, але ўсе гэтыя пытанні вырашаюцца ў рабочым парадку. Адно магу сказаць: каб сэканоміць, кангрэс вырашана правесці за адзін дзень, бо аплачваць яшчэ і гасцініцу для дэлегатаў – гэта вялікія затраты.

Мы вырашылі, што пасля заканчэння мерапрыемства прыкладна раз на месяц будуць працаваць пляцоўкі кангрэса, дзе магчыма прыняцце дадатковых рашэнняў.

**– Якія тэмы будуць закранацца падчас кангрэса?**

– Сацыяльна-эканамічнае развіццё Беларусі, міжнародна-прававое і агульнапалітычнае. І, натуральна, будзем гаварыць пра нацыянальна-гістарычныя аспекты.

**Алесь СІВЫ.**

В МИРЕ

### Миллиардер из Зимбабве заплатит врачам за прекращение забастовки

Единственный в Зимбабве миллиардер Страйв Масиива пообещал оплатить работу государственных врачей, чтобы они прекратили забастовку, которая началась еще в сентябре прошлого года, сообщил Bloomberg.

Основатель и основной акционер компании Econet Wireless, занимающейся торговлей мобильными телефонами, предложил выплачивать медикам субсидии в размере от 5000 до 10.000 зимбабвийских долларов (290–580 долларов США) в зависимости от выслуги лет в течение последующих шести месяцев, пишет Forbes Staff.

Сейчас государственные врачи Зимбабве получают эквивалент 200 долларов в месяц. Они требуют изменить зарплаты с учетом инфляции, ранее достигшей отметки в 500% в год.

Страйв Масиива – единственный миллиардер в Зимбабве, он занимает 19-е место в рейтинге миллиардеров Африки. По данным на 23 января, состояние телекоммуникационного магната оценивается в 1,1 млрд долларов.

Народная Воля http://www.nv-online.info
28 СТУДЗЕНЯ 2020 г.

СЛОВА ПОЛИТОЛОГУ

# Окажет ли Запад поддержку, если независимость Беларуси попадет под удар

*Свежая информация о проблемах выдачи виз гражданам Беларуси в Соединенные Штаты и Европейский Союз в очередной раз возвращает к вопросу, насколько наша страна важна для Запада.*




### Неприятные новости

Несколько дней назад в СМИ появились сообщения о намерении Соединенных Штатов ограничить въезд гражданам ряда государств, в том числе Беларуси. Конкретные причины и предполагаемые меры пока официально не названы, однако прозвучали намеки, что озабоченность Вашингтона могла быть вызвана неспособностью этих государств проверять собственных граждан.

На фоне заметного улучшения белорусско-американских отношений ничего, кроме недоумения, такой оборот дела, естественно, вызвать не может.

Аналитики считают, что причина казуса – несогласованная политика администрации Дональда Трампа и Государственного департамента, и предполагают, что в ближайшее время недоразумение будет снято.

Хотелось бы надеяться, что так и будет, однако сам факт включения нашей страны в один ряд с Эритреей, Мьянмой, Нигерией, Суданом и Танзанией по меньшей мере неприятен.

Другая неприятная новость на визовую тему связана с Европой. Как сообщило представительство Евросоюза в Беларуси, в соответствии с вступающим в силу 2 февраля пересмотренным Визовым кодексом ЕС визовый сбор для белорусских граждан хоть и временно, но все же будет увеличен до 80 евро.

Официальный Минск просил заморозить это решение, поскольку в связи с подписанием ранее соглашений об упрощении визового режима и реадмиссии ориентировочно в июне ожидается снижение стоимости виз для белорусов до 35 евро. И то, что просьбу отклонили «из-за ограничений по времени и процедурных требований», не является свидетельством высокого авторитета Беларуси в глазах Брюсселя.

### Наши власти и сами упорствуют

22 января на заседании Экспертно-аналитического клуба в Минске состоялась дискуссия «Окно в Европу для Беларуси». Бывший посол Беларуси в Австрии и представитель при ОБСЕ, а ныне депутат Палаты представителей Валерий Воронецкий высказал мнение, что Европейский Союз заинтересован в конструктивной роли Беларуси, направленной на повышение стабильности в регионе и укрепление безопасности. А потому значение нашей страны для ЕС будет возрастать.

Возможно, в конце концов так оно и случится. Однако подтверждений подобной точки зрения пока, к сожалению, немного.

На сегодняшний день в самых общих чертах отношение Запада к Беларуси выглядит лишь как желание, чтобы она не создавала ему проблем.

Следует признать, что по ряду направлений наша страна выглядит адекватно. Например, в таких сферах, как обеспечение транзита, противодействие нелегальной миграции и всем видам контрабанды.

Вместе с тем нет оснований говорить о серьезной заинтересованности западных партнеров в экономическом сотрудничестве. Торговля с Беларусью как у ЕС, так и у США занимает лишь незначительные доли процента от общего объема. Причем основную массу белорусского экспорта составляют нефтепродукты и другие виды сырья, которые без труда могут быть замещены другими поставщиками.

Расширению более эффективного взаимодействия препятствуют слабая реформированность белорусской экономики и обширная практика вольной трактовки властями заключенных соглашений.

Похоже, заканчивается эффект от эксплуатации Минском декларируемого статуса «регионального миротворца»: практически отсутствуют результаты, да и политика белорусского руководства в этом плане не слишком последовательна. Новые же инициативы вроде «Хельсинки-2» серьезного понимания не встречают.

Наконец, белорусское руководство продолжает открыто заявлять о своем несогласии с рядом важных для европейского сообщества ценностей. В частности, продолжает проявлять необъяснимое упорство в вопросе отмены смертной казни.

До недавнего времени главная претензия к Беларуси как раз и заключалась в наличии здесь проблем с демократией и правами человека. Правда, после российской агрессии против Украины на первый план вышла геополитическая составляющая. Цивилизованному миру не хотелось бы, чтобы Беларусь стала полным сателлитом непредсказуемой Москвы, укрепляя тем самым положение последней. Но, несмотря на снижение планки требований в отношении демократии, полностью отказываться от них Запад не намерен.

### На серьезную защиту рассчитывать не приходится

Между тем в свете заметно усилившихся в последнее время опасений за судьбу независимости нашего государства вопрос его важности для Запада приобретает особую значимость. Ведь гипотетически только он способен оказать более или менее существенную поддержку, если независимость окажется под ударом.

Но, хотя насчет сохранения суверенитета Беларуси взгляды ЕС и руководства страны в целом совпадают, степень важности этого обстоятельства для Запада намного ниже.

Поэтому у нашей страны нет оснований рассчитывать на компенсацию потерь от утраты российских преференций – например, на открытие западного рынка для белорусской продукции или поставки энергоносителей по сниженным ценам.

Если инкорпорация будет осуществляться без резких силовых шагов и не спровоцирует в нашей стране массового протеста, то не стоит также ожидать введения против Москвы новых санкций. Тем более что в последнее время откровенно набирает силу обратная тенденция.

Таким образом, не видно аргументов, которые побудили бы Запад принять реальные эффективные меры в защиту нашей независимости. В итоге его единственной реакцией в случае аншлюса окажутся, скорее всего, лишь осуждающие заявления и, вероятно, непризнание поглощения, как это было в отношении стран Балтии в 1940 году.

**Андрей ФЕДОРОВ.**
*(Naviny.by)*

ЁСЦЬ ПЫТАННЕ...

## Ці баяцца каранавіруса ў «Вялікім камені»?

*У Кітайска-беларускім індустрыяльным парку «Вялікі камень» прыкладна трэць супрацоўнікаў – грамадзяне Кітая.*

Паводле слоў першага намесніка генеральнага дырэктара СЗАТ «Кампанія па развіцці індустрыяльнага парку» **Кірыла Карацеева**, у цяперашні час асноўная частка супрацоўнікаў кампаніі з КНР знаходзіцца ў адпачынку ў сувязі са святкаваннем кітайскага Новага года. Аналагічная сітуацыя і на будпляцоўках – кітайскія генпадрадныя арганізацыі ажыццяўляюць работы на аб'ектах сіламі беларускіх субпадрадчыкаў і рабочых.

*«Таму цяпер работа ідзе ў штатным рэжыме, і рызыкі завозу віруса нізкія,* – цытуе belta.by Карацеева. – *У першай жа дэкадзе лютага з адпачынку вернецца каля 400 чалавек з Кітая. Таму ў нас ёсць час прапрацаваць варыянты прафілактычных мер: камусьці падоўжыць адпачынак, узмацніць санітарную апрацоўку нашых будынкаў, будаўнічага гарадка, ужываць сродкі дыяхнасці і г.д. Акрамя таго, з кітайскімі партнёрамі прапрацоўваем пытанне аказання фінансавай дапамогі для больш сістэмных мер».*

УВАГА!

## Пошукі вынікаў не далі

*У Лідскім раёне ўжо больш за тыдзень шукаюць Эдуарда Міхаловіча. Пакуль безвынікова*

«Народная Воля» распавядала ў мінулым нумары аб тым, што Эдуард а 23-й гадзіне 17 студзеня вяртаўся пешкі з вёскі Татарцы дадому ў вёску Сцеркава. Ён двойчы патэлефанаваў сваёй дзяўчыне і паведаміў, што заблукаў, пасля гэтага яго тэлефон стаў недасяжальным.

У пошуках хлопца акрамя міліцыі, вайскоўцаў і мясцовага насельніцтва браў удзел пошукавы атрад «Анёл». Адміністратар лідскага атрада «Анёл» Тацяна Жоль распавяла «Народнай Волі», што ў суботу на пошук выйшла найбольшая колькасць людзей.

– У суботу ў пошуку бралі ўдзел каля 130 чалавек, – канстатуе Тацяна. – Да нас прыехалі калегі з Мінска, Гродна, Баранавіч, Брэста, Жодзіна, Маладзечна, былі мясцовыя жыхары. Мы праверылі вялікія ўчасткі палёў, тарфянікаў, працавалі чатыры квадракоптары, але ўсё безвынікова, нават ніводнага сляда не знайшлі.

У нядзелю, паводле падлікаў дзяўчыны, пошукамі займаліся каля 70 чалавек, працавалі квадракоптары, але зноў безвынікова.

– Пошукі ўскладняліся тым, што ўначы, калі Эдуард знік, быў моцны туман. Там і цяпер залітыя тарфянікі і мокрыя палі. Сабака след не можа ўзяць, – кажа прадстаўніца «Анёла». – Мы праходзілі па ўсіх магчымых сцежках праз канавы і па лесе, і нідзе нават ніякага знаку: ні адзежы, ні следоў, нічога...

Зараз вывучаюцца здымкі з квадракоптараў, аналізуецца іншая інфармацыя. «Анёл» не плануе больш масавых пошукаў, але іх працягваюць мясцовыя жыхары і міліцыя.

Эдуард Міхаловіч – інвалід другой групы: у яго параліч правай рукі, і ён кульгае на левую нагу. Яму 24 гады. Аб яго месцазнаходжанні дагэтуль нічога не вядома.

**Міхал КАРНЕВІЧ.**

ДЭМАКРАТЫЯ ПА-БЕЛАРУСКУ

## Апазіцыя прыдумала складаную схему абрання адзінага кандыдата

Пяцёра лідараў апазіцыйных палітычных партый абвясцілі пра працэдуру абрання адзінага кандыдата на прэзідэнцкія выбары – 2020. Простай яе не назавеш.

Прэзентацыя адбывалася ў сталічным гатэлі Crown Plaza. Палітыкі абралі круглую залу з салярнай сімволікай на стале, падзеленай на дванаццаць сектараў па знаках задыяку. Апазіцыянеры не сядзелі за сталом, а стаялі перад шасцю бел-чырвона-белымі сцягамі.

Што тычыцца працэдуры праймерыз, то яна атрымалася складанай.

Перад пачаткам праймерыз маецца 100 балаў на ўсіх кандыдатаў. Ад самага пачатку па 2 балы атрымлівае кожная партыя.

Наступныя 30 балаў будуць разыграны падчас інтэрнэт-галасавання. Будзе створаны адмысловы сайт, дзе за кандыдатаў можна будзе прагаласаваць.

Яшчэ 30 балаў будуць разыграны падчас паездак па рэгіёнах (кандыдаты маюць намер аб'ездзіць каля 80 гарадоў).

І нарэшце апошнія 30 балаў раздудуцца падчас Кангрэса дэмакратычных сіл. Кожная партыя будзе мець там па 100 прадстаўнікоў, а асацыяваныя сябры – па 25.

У выніку той, хто набярэ найбольш балаў, і будзе адзіным ад апазіцыі. Працэдура скончыцца ў другой палове мая.

Да кандыдата вылучыўлі шэсць патрабаванняў. Трэба выступаць за:

1.незалежнасць і супраць дыктатуры;
2.абарону сацыяльных і эканамічных правоў беларусаў;
3.выхад з АДКБ і Саюзнай дзяржавы;
4.развіццё беларускай мовы і культуры;
5.добрасуседскія адносіны з Еўрасаюзам, Расіяй і ЗША;
6.недапушчальнасць знешняга ўмяшальніцтва ў справы Беларусі.

Цікава, што да адзінага будзе яшчэ патрабаванне не казаць нічога, што супярэчыць традыцыйным сямейным каштоўнасцям. Мабыць, хрысціянскія дэмакраты прапхнулі гэты пункт.

Заяўкі па кандыдатах будуць прымацца да вечара 16 лютага. Ад кандыдата будзе патрэбна 200 подпісаў у падтрымку, а таксама 500 долараў на арганізацыйныя выдаткі. 4 сакавіка будуць вядомы ўсе прозвішчы кандыдатаў.

*(Nn.by). (Працяг тэмы на 3-й стар.)*

ШТО ХВАЛЮЕ...

## Ці зрушыцца праблема пенсій?

Як паведамлялася, у лютым пройдзе VIII з'езд Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі. Кіраўнік ФПБ **Міхаіл Орда** заявіў, што яго дэлегаты абмяркуюць пытанні, звязаныя з пенсіённай сістэмай.

*«Адно з пытанняў у сістэме пенсіённага забеспячэння – гэта ўраўняльны прынцып, калі сёння ўсё роўна, колькі ты зарабляеш, усё роўна, ці ёсць у цябе высокая кваліфікацыя працы, усё роўна, што ты сёння адказваеш за вялікі ўчастак работы. Калі ты выйдзеш на пенсію і той, хто сёння не мае ніякай кваліфікацыі, асабліва і не ўкладваецца, – пенсія прыкладна будзе аднолькавай. Так не павінна быць,* – сказаў Міхаіл Орда ў эфіры Сталічнага тэлебачання. – *Пенсія сёння павінна адпавядаць таму, які ўнёсак чалавек робіць і ў вытворчасць, і ў працу, яна павінна адрозніваццца. Чалавек павінен разумець, што, калі я лепш працую, значыць, у мяне і пенсіённае забеспячэнне будзе вышэйшым».*

Якія захады мусяць прапанаваць прафсаюзы, пакуль не вядома, хоць да з'езда застаецца месяц. Орда, праўда, заўважыў, што *«паралельна павінна развівацца назапашвальная пенсія»*. Ці значыць гэта, што мы пачнём рухацца ў гэтым накірунку? Напрыклад, у суседняй Польшчы да 1999 года паралельна існавалі дзве пенсіённыя сістэмы – размеркавальная (як у нас) і размеркавальна-назапашвальная, гэта значыць пакрысе ўводзілася сістэма, пры якой работнік сам назапашвае сваю будучую пенсію.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

ПА-СУСЕДСКУ

### Польскі капітал у Беларусі

Па аб'ёме інвестыцый у беларускую эканоміку Польшча займае чацвёртае месца. Наперадзе толькі Кіпр, Расія і Вялікабрытанія.

Леташнія лічбы яшчэ не падагулены, а вось у 2018 годзе польскія інвестары ўклалі ў эканоміку Беларусі 445 мільёнаў долараў – на 250 мільёнаў долараў больш, чым, скажам, у 2016 годзе.

**Вікторыя КУЛЬЖЫЦКАЯ.**

НЕЛЬГА МАЎЧАЦЬ!

### Камітэт ААН па правах чалавека скажа сваё слова...

Гомельскі праваабаронца Леанід Судаленка пераканаы, што выпадкі адміністрацыйнага пераследу абаронцаў суверэнітэту і незалежнасці Беларусі мусяць прайсці праверку ў Камітэце ААН па правах чалавека. Беларуская ўлады цынічна паставіліся да сваіх грамадзян, якія праз мірныя мітынгі і шэсці адстойвалі гонар і незалежнасць сваёй краіны, што прадугледжана Канстытуцыяй.

– Адміністрацыйныя справы, – дадае Судаленка, – захоўваюцца ў судах толькі тры гады. І хто пасля ўспомніць пра добрыя справы нашых герояў-абаронцаў? А рашэнні Камітэта ААН, як і міжнародныя абавязацельствы Беларусі, не маюць тэрмінаў даўніны. Такім чынам мы надзейна архівуем сталенне сённяшніх улад, міліцыянераў і суддзяў да Асноўнага закона сваёй краіны.

**Анатоль ЛІПСКІ.**

*Сельска-гаспадарчыя арганізацыі і прадпрыемствы Беларусі рэалізуюць сваю прадукцыю ў 99 краінах свету.*

ЗНАЙ НАШИХ!

# 78-летней пациентке сделали уникальную операцию

*Врачи рентгенооперационной Республиканского клинического медицинского центра впервые в Беларуси выполнили малоинвазивное протезирование аортального клапана 78-летней пациентке. Как рассказала главный врач центра **Ирина Абельская**, операция была выполнена в конце минувшего года по поводу критического аортального стеноза с использованием новейшего баллон-расширяемого клапана Edwards SAPIEN 3.*

«Вся процедура прошла под местной анестезией путем пункции бедренных сосудов, – *сообщает пресс-служба Минздрава*. – Время вмешательства составило 130 минут (для сравнения: время классической кардиохирургической операции – 300–360 минут). Через 4 дня пациентка была выписана с хорошим клиническим результатом.

Отметим, что аортальный стеноз – сужение аортального клапана, в результате которого возникает препятствие току крови из полости сердца в аорту (крупнейший кровеносный



сосуд в организме). Чаще всего встречается у пожилых людей: по статистике, от умеренного или тяжелого аортального стеноза страдает каждый восьмой пациент старше 75 лет. Основные симптомы этого заболевания формируют классическую триаду: обмороки, которые возникают ввиду недостаточного притока крови к головному мозгу, стенокардия (боль в грудной клетке), одышка, возникающая при физической нагрузке.

Ситуация усугубляется тем, что при появлении симптомов стеноз аортального клапана обычно имеет выраженный характер: двухлетняя выживаемость таких пациентов не превышает 50%. Радикальным способом лечения является протезирование аортального клапана. К сожалению, 30–40% пациентам традиционное хирургическое вмешательство не может быть выполнено в силу разных причин.

Единственная спасительная альтернатива – транскатетерная имплантация аортального клапана (процедура TAVI). Она предпочтительна у пациентов старше 75 лет, высокого хирургического риска, с тяжелыми сопутствующими заболеваниями, с операциями на сердце в анамнезе, с деформациями грудной клетки и др. В подобных ситуациях долгосрочные результаты TAVI как минимум не уступают результатам открытого кардиохирургического вмешательства. И в то же время сохраняют все преимущества малоинвазивной процедуры: меньшая длительность вмешательства, отсутствие необходимости в искусственном кровообращении, короткая госпитализация, быстрый реабилитационный период».



ТОЧКА ЗРЕНИЯ

Александр ФЕДУТА

# Выносная урна

Белорусская оппозиция опять решила выбрать единого кандидата. Что ж, намерение благое. Но схема умопомрачительная. Сто баллов причитается на всех кандидатов.

30 баллов разыгрывают на специальном сайте. За кого проголосует больше посетителей сайта, тот получит больше баллов.

30 баллов получат в результате поездок кандидатов по восьмидесяти городам и весям Беларуси.

Судьбу еще 30 баллов определит голосование делегатов Конгресса демократических сил.

Еще по два балла начисляет своему кандидату партия, которая его выдвигает.

Вы что-нибудь поняли? Если не поняли – объясняю.

Есть такая игра – праймериз, то есть определение популярности каждого в отдельности. «Весь мир» выбирать будет между **Юрасем Губаревичем, Павлом Северинцем, Ольгой Ковальковой, Николаем Козловым** и **Алексеем Янукевичем**. У некоторых из них, знаю, есть права на управление автомобилем. Но вы верите, что каждый, кто ездит на машине, сможет управлять государством? Смотря как управлять, скажете. А вот так! Помните, в 2010 году один взбалмошный сочувствующий джентльмен звонил по мобильнику Николаю Статкевичу:

– Микола! Ты на площади? Иди, садись в кабинет Сидорского и жми на кнопки.

А сейчас представьте себе Ольгу Ковалькову за «кнопками» в кабинете главы государства…

Людмила Прокофьевна Калугина из «Служебного романа» просто вызывала к себе через секретаршу Анатолия Ефремовича Новосельцева. Завершилось все это, как мы помним, сначала слезами, потом дракой, а потом у Новосельцевых стало три мальчика. Что родит наш кандидат, ежели вдруг кто-то за него проголосует?

Ах, они не верят в то, что они победят? Но тогда зачем это все в принципе – если вы ни на минуту сами не допускаете возможности победы, о чем говорили в многочисленных интервью, во время пресс-конференций и даже – не сомневаюсь, поскольку считаю вас почти честными людьми, – во время встречи с потенциальными донорами?

Статус кандидата в президенты превратился в предел мечтаний белорусского оппозиционера. «Крупный политик» – вот как переводится этот статус в ходе общения с представителями западных демократий. Я – кандидат в президенты, значит, я – крупный политик. Считайтесь со мной, господа, даром что никто на родине со мной не считается.

У выдающегося английского писателя Грэма Грина есть роман «Комедианты». Действие его происходит на Гаити во времена диктатуры Франсуа Дювалье. Есть там такие персонажи – супружеская пара мистер и миссис Смит. Мистер Смит баллотировался во время выборов президента США 1964 года, чем искренне гордится. Правда, все американцы твердо уверены, что выбирали они между демократом Линдоном Джонсоном и республиканцем Барри Голдуотером, но сам мистер Смит искренне убежден, что составлял им вполне достойную конкуренцию.

Для белорусского оппозиционера регистрация в качестве кандидата на президентских выборах – торжественные политические похороны. Урна с бюллетенями для голосования превращается в урну с его политическим прахом: мы не знаем, чего там в этой урне и сколько, но там – он, наш дорогой покойник. А уж что-что, но хоронить, как говорила одна мудрая – и тоже покойная ныне – женщина, мы умеем.

Они не оставляют нам выхода. Все они, от власти до оппозиции. Одни запретили нам агитировать за бойкот, другие выдвигают кандидатов, которым, судя по их биографиям, нельзя доверить не то что страну, но даже ферму по выращиванию кроликов. Потому что вторым указом после назначения революционных трибуналов по всей стране они запретят кроликам плодиться и размножаться.

Если мы не можем им воспрепятствовать, мы можем ответить лишь закрытой дверью и отказом отдать им свои подписи. Раньше я ставил подписи за каждого кандидата от оппозиции, представители штаба которого доходили до меня. Сейчас я не поставлю подпись ни за одного. Я хочу спать спокойно.

Это не означает, что я призываю к отказу от участия в политическом процессе. Мы все должны участвовать в процессе наблюдения, фиксировать злоупотребления, ловить на фальсификациях и т.д. Но подпись ставить или голосовать я не буду.

По крайней мере, если я не получу внятных ответов на те вопросы, которые на самом деле являются существенными.

1. Что будет с системой социального обеспечения и социальной защиты населения?

2. Какой видится им (не советникам, а им) аграрная реформа и почему?

3. Какова судьба крупнейших машиностроительных предприятий Беларуси (не только БелАЗа, но МАЗа, МТЗ и проч.)?

4. Как обеспечить занятость людей в районных центрах с населением менее 30 тысяч жителей?

5. Какой видится им замена российскому рынку (ибо, как я понимаю, резать они собираются, что называется, по живому)?

Все остальное я готов доверить даже Северинцу. Но на эти вопросы хотелось бы получить внятные ответы. По крайней мере до того, как единый кандидат превратится в прах от сожженных бюллетеней в выносной урне.

РАЗБОР ПОЛЕТОВ

# Грозит ли белорусскому правительству отставка?

*Экономические результаты прошлого года теперь можно подводить – ключевые показатели уже известны. Увы, не все плановые параметры достигнуты. Президент ранее грозил, что в случае невыполнения директивных показателей правительство уйдет «на покой». Дойдет ли до этого?*

### Казнить не время миловать

Минувший год оказался довольно спокойным – «черные лебеди» в страну с российского валютного рынка, как ожидалось, не прилетели, поэтому финансовый рынок не лихорадило. Соответственно курс рубля был стабильным, а инфляция (по белорусским меркам) оказалась весьма низкой – 4,7%.

Наряду с этим удавалось исполнять бюджет с профицитом и постепенно (за счет резервов предприятий и средств казны) увеличивать благосостояние граждан. В декабре средняя зарплата составила 1238,7 рубля и выросла в номинальном выражении на 10,5% по сравнению с декабрем позапрошлого года, или на 5,5% в реальном выражении.

Так что говорить, что прошлый год был каким-то кошмарным и кризисным, не приходится. Тем не менее некоторые ключевые показатели социально-экономического развития не были выполнены.

Так, ВВП увеличился на 1,2%, хотя изначально планировалось, что экономика вырастет на 4%. Кроме этого, предполагалось, что экспорт товаров и услуг увеличится на 5,4%, а по факту, согласно последним данным, произошло снижение в январе–ноябре на 1,7%.

Явное невыполнение ряда запланированных параметров было очевидно еще осенью прошлого года, и тогда президент, чтобы подстегнуть правительство, поручил исправить ситуацию.

«Не будут выполнены параметры развития на 2019 год, все ответственные – от премьер-министра – уйдете на покой», – предупреждал правительство в сентябре Александр Лукашенко.

Планы, как и прогнозировали эксперты, выполнить не удалось. Все международные организации, которые кредитуют Беларусь, заявляли, что обеспечить рост белорусской экономики на уровне 4% нереально. Всемирный банк предполагал, что белорусская экономика вырастет на 1% в 2019 году, и так оно примерно и оказалось.

Забавно, но, несмотря на очевидное, в Беларуси не принято корректировать, как в других странах (в той же России), официальный экономический прогноз по темпам экономического роста. Поэтому «напряженное задание» висело над правительством дамокловым мечом весь 2019 год.

### Чуда не случилось. Экономику Беларуси подкосили нефтяные проблемы

Год закончился, поступают итоговые данные о выполнении разных экономических показателей, и формальные основания отправить правительство «на покой», как предупреждал президент, существуют. Дойдет ли до этого или все-таки для радикальных кадровых решений пока время не пришло?

Стоит отметить, что это уже не первый случай, когда показатели не выполнялись, а президент во что бы то ни стало настаивал на достижении «целей развития».

Помнится, в 2016-м правительство планировало вывести экономику из рецессии, и глава государства также грозил правительству отставкой в случае невыполнения этой задачи.

Команда Андрея Кобякова с задачей не справилась, но в креслах осталась до лета 2018-го и покинула Дом правительства совсем по другим причинам – после скандала в Орше. А что ждет нынешнее правительство?

### Менять не на кого и незачем

Белорусские экономисты считают, что результаты 2019 года вполне закономерны.

«Благоприятная внешняя конъюнктура в части цен на товары, а также сбалансированная монетарная политика (власти не стали накачивать экономику рублями) позволили обеспечить относительно низкую инфляцию», – отметил в комментарии для БелаПАН финансовый аналитик Александр Муха.

Низкие темпы экономического роста, наблюдавшиеся в прошлом году, – также закономерный результат, отметила в беседе академический директор Белорусского экономического исследовательско-образовательного центра (BEROC) Катерина Борнукова.

«Ценовая стабильность – условие необходимое, но недостаточное для экономического роста. Причины низкого экономического роста в прошлом году традиционные – низкая эффективность значительного государственного сектора», – подчеркивает Борнукова.

По мнению экспертов, экономические власти в прошлом году сделали практически всё, что могли (с учетом имеющихся полномочий), и менять правительство серьезных оснований нет.

«Обеспечена низкая инфляция благодаря совместным усилиям Нацбанка и правительства, доходы населения в реальном выражении выросли. А на рост ВВП правительство не может в полной мере влиять с учетом отсутствия значимых полномочий по повышению эффективности экономики», – отметил в комментарии для БелаПАН старший аналитик «Альпари» Вадим Иосуб.

В этих условиях, продолжает он, серьезных оснований для отставки правительства нет. Тем более скамейки запасных не видно.

«К тому же продолжаются тяжелые переговоры с Россией по нефтегазовым вопросам, нужны люди, которые глубоко в теме. Поэтому в отставке правительства сейчас нет никакой логики», – убежден Иосуб.

Схожего мнения придерживаются и другие экономисты. «У правительства (с учетом квалификации руководящих работников) большой потенциал, но у него нет мандата на реформы. Зачем его менять?» – задается вопросом Борнукова.

Аналитики предполагают, что пока отставки правительства не будет.

«На этот год запланированы президентские выборы, сейчас у нас предвыборная пора. К тому же продолжаются крайне важные для страны нефтегазовые переговоры с РФ. Поэтому сейчас вряд ли отставку правительства можно считать уместной», – считает Муха.

Эксперты в один голос говорят, что от исхода нефтегазовых переговоров с Россией, которыми занимается нынешнее правительство, напрямую зависит будущая ситуация в экономике.

«С условиями поставок газа и нефти на 2020 год определенности нет. Если не договоримся на приемлемых для нас условиях, то по итогам года может быть и стагнация, и экономический спад», – отметила Катерина Борнукова.

И если дела пойдут по такому сценарию, то и другой состав правительства исправить ситуацию не сможет. Поэтому, вероятно, глобальных кадровых перемен до выборов не будет, чтобы не осложнять и без того непростую ситуацию, в которой оказалось государство из-за нерешенных проблем с Россией.

**Дмитрий ЗАЯЦ.**

(БелаПАН)

НЕ ПРАПУСЦІЦЕ!

## У гонар Каліноўскага – музычны фэст «Узаемна!»



У дзень нараджэння Кастуся Каліноўскага, 2 лютага, у сталічным клубе «Re:public» пройдзе музычны фэст «Узаемна!» з удзелам гуртоў «Дзецюкі», «Зніч», «Рутвіца», «Пава», «Стары Ольса», да якіх далучацца Раман Арлоў і «У нескладовае». Чакаецца і замежны госць – польскі гурт Żywiołak. Адным з хэдлайнераў фэсту выступіць гродзенскі гурт «Дзецюкі», у чыёй творчасці тэма паўстання 1863 года займае значнае месца. У «Фэйсбуку» галоўны «дзяцюк» Алесь Дзянісаў *(на фота)* патлумачыў: «Наша праграма зойме прыкладна 40 хвілін. Абавязкова прагучаць песні, звязаныя з Каліноўскім, – «Мужыцкая праўда», «Час касінераў» ды іншыя». Назва фэсту нагадвае пра пароль паўстанцаў: «Каго любіш? – Люблю Беларусь! – Так узаемна!».

**Антон ЗАГОРСКІ.**

ЗОРКІ

## Валерый Скаражонак адкапаў княжаскія карані

*Адзін з салістаў легендарнага ансамбля «Песняры» высветліў, што ягоныя продкі былі князямі.*

«Шмат хто казаў, што мне да твару княжацкі ўбор, – *распавядае падрабязнасці вядомы артыст.* – Я звярнуўся ў архіў Рэспублікі Беларусь, і вось ён, вынік! Высветлілася, што па матчынай лініі наш род адносіцца да старажытнага княжацкага роду Пухальскіх. Мая мама ў дзявоцтве – Пухальская. І нават герб нашага роду таксама маецца!

Так што, сябры мае, вы былі недалёка ад ісціны! Мне сапраўды ідзе гэты княжацкі гарнітурчык!»

**Вера ВІР.**



**На фота: «І князя добрая!» – так у сацсетках падпісаў Валерый Скаражонак здымак з заслужанай артысткай Беларусі Вікторыяй Алешка.**

ЖЫЦЦЁ ЯК ЯНО ЁСЦЬ

# Круглы год на дачы

*Колькі беларусаў жыве на лецішчах круглы год?*

*Афіцыйных дадзеных пра гэта няма, але я ведаю нямала людзей, якія не толькі ў летнія месяцы, але і зімой туляцца на дачы.*

### «Мы з вёскі, і для нас гэта нармальна...»

Пенсіянерка Валянціна Пятроўна распавядае, што яны з мужам перасяліліся з горада на дачу яшчэ 15 гадоў таму. Зрабілі гэта па сваёй волі, іх ніхто не прымушаў. Прычынай было тое, што ўнучка выйшла замуж, а грошай на кватэру не ставала.

– Мы з мужам абодва з вёскі, і нам больш падабалася тут жыць, чым у горадзе. Тут мы заўсёды лепей сябе адчувалі, – распавядае жанчына. – Ужо пяць гадоў пасля смерці мужа я жыву адна. У мяне ёсць куры, сабачка. У горад не хачу. Я тут сама гаспадыня і, як магу, так і зраблю.

Домік у Валянціны Пятроўны невялікі, пабудаваны 30 гадоў таму, але вельмі ахайны і ўтульны. На ўмовы гаспадыня таксама не скардзіцца. Маўляў, электрычнасць ёсць, вада прыгодная для піцця ў калонцы ля год. Прыбіральня на вуліцы, але да гэтага прызвычаена з дзяцінства.

– Я тут плачу падатак раз на год каля 20 рублёў, узнос раз на год для таварыства прыкладна 60 рублёў і за электрычнасць каля 25 рублёў у месяц. Яшчэ дзеці балон газавы прывозяць, так што беды няма, – кажа Валянціна Пятроўна. – Калі б жыла ў горадзе і з адной пенсіі трэба было б аплаціць кватэру – больш за сто рублёў, то што заставалася б на жыццё? А тут мне большменш хапае на тое, каб пражыць.

Жанчына распавядае, што яе адзінокая суседка па гарадской кватэры таксама круглы год жыве на лецішчы на другім канцы Гродна, на возеры Юбілейным. Маўляў, у яе вельмі малая пенсія – 270 рублёў, але дзякуючы таму, што здае кватэру, можа нармальна харчавацца.

У доме цёпла, гаспадыня кажа, што раней муж сам нарыхтоўваў дровы для печкі, а цяпер даводзіцца купляць розныя абрэзкі – сёлета за машыну заплаціла 220 рублёў, затое надоўга хопіць.

### «Галоўнае, каб дзяржава не чапала...»

За харчамі Валянціна Пятроўна ездзіць у гарадскую краму. Лецішча знаходзіцца літаральна ў мяжы горада – да прыпынку тралейбуса прайсці ўсяго кіламетр. Дарэчы, у таварыстве «Хімік-Азот» налічваецца каля тысячы домікаў, праўда, часткова іх пачалі зносіць пад гарадскія і заводскія камунікацыі.



Участак на лецішчы невялікі, вясной засаджваецца ўсім, чым толькі магчыма.

– Мы тут і бульбу садзім, і ўсю гароднiну, ёсць яблыкі, вішні, парэчкі, кусты розныя, – паказвае гаспадыня. – Раней і жывёліну ўсякую трымалі, акрамя каровы. Было ўсё сваё, як у вёсцы. Праўда, цяпер кожны год задумваюся, як нават з агародам справіцца – не стае сіл.

Блізкасць азотнага камбіната Валянціну Пятроўну не палохае. Сцвярджае, што практычна не адчуваюцца дрэнныя пахі з боку завода, маўляў апошнія гады на прадпрыемстве шмат што змянілі на карысць экалогіі, і цяпер дыхаецца тут добра, і гародніну з свайго надзелу ў ежу яна ўжывае без боязі.

### «Ёсць яшчэ домікі, дзе ўвечары гарыць святло»

Ці не страшна ёй адной у хаце па начах? – цікаўлюся ў гаспадыні. Аказваецца, прывыкла, маўляў, па дачах цяпер асабліва ніхто не лазіць, а побач заўсёды сабачка, які падае голас.

Ёсць яшчэ домікі, у якіх увечары ўключаецца святло альбо гараць знічкі. Недалёка жывуць муж з жонкай пенсіённага веку, а трохі далей – сям'я алкаголікаў, але яны спакойныя, ні з кім не канфліктуюць і ніколі не чапаюць. Жывуць і яшчэ людзі, але значна далей, з імі рэдка калі сустрэнешся.

– Летась на сходзе таварыства казалі, што ў нас круглы год жыве каля 30 сямей, – канстатуе жанчына. – Жыла нават сям'я з двума дзецьмі – нібыта не маглі кватэру пабудаваць. Але я іх цяпер не бачу. Некаторыя жывуць на дачах, бо танней за яе заплаціць, чым у горадзе кватэру зняць. А тут, у прынцыпе, той самы горад, толькі не ўсе выгоды ў доме.

У выхадныя абавязкова прыязджае нехта з суседзяў, каб паглядзець сваё лецішча. Суседзі ўдзячныя, што Валянціна Пятроўна тут круглы год, бо наглядае і за іх дамамі.

– Сюды нават і хуткая дапамога прыязджае, і міліцыя, калі выклікаюць, – распавядае жанчына. – Я вось толькі прапісана ў горадзе, але за гэта пакуль ніхто не чапляецца, і электрычнасць на зіму не адключаюць».

### «Не наракаю, ёсць тыя, каму горш...»

Напрыканцы пацікавіўся ў сваёй суразмоўцы, ці не хоча яна хоць на зіму вярнуцца ў гарадскую кватэру. Але жанчына ў адказ толькі ўсміхнулася: маўляў, ужо звыклася і не хоча назад.

– У нас яшчэ не найгорш, – кажа яна. – Вось часам гляджу навіны па тэлевізару і бачу, як у Расіі людзі ад розных катастроф цярпяць і ніякай помачы не маюць. Вось дзе шкада людзей, а я тут нейк дажыву...

Не за гарамі вясна, трэба брацца за гарод, насенне рыхтаваць, цяпліцу ставіць...

**Міхал КАРНЕВІЧ.**

ПАМЯЦЬ

# Верай і праўдай…

Менавіта гэтак, верай і праўдай, служыла **Святлана Кліменцэнка** роднаму беларускаму слову, шмат гадоў упрыгожваючы старонкі «Народнай Волі» сваім глыбока чалавечным талентам, пранікнёнымі публікацыямі пра вядомых пісьменнікаў ды іх творы. Ведаю: як на свята, заўсёды чыста і прыгожа апранутая, яна ішла на працу ў рэдакцыю. З Зялёнага Лугу, з дома, што непадалёк ад Курапатаў, мерным крокам рухалася на трамвай. Праходзіла перад маім домам, і мне з акна прыемна было бачыць яе ў нязменнай шаліноўцы – раскошнай кветцістай хустцы.

Мне пашчасціла добра ведаць яе, сустракацца з ёю то на вуліцы, то ў Курапатах, то на паэтычных і музычных вечарах у розных культурных установах, а яшчэ ў рэдакцыі «Народнай Волі», дзе яна не раз рыхтавала да друку мае лісты. Інтэлігентная, далікатная, Святлана Ульянаўна ўмела не толькі заахвоціць да выступлення ў газеце, а і зрабіць карысную заўвагу.

Цяжка змірыцца з тым, што яе не стала ў сям'і, у сяброўне журналістаў, у нашым грамадскім жыцці. Ужо год няма сярод нас выдатнай руплівіцы незалежнага друку. У журбе, у скрусе я схіляю галаву перад цяжкай стратай і кажу сардэчнае: «Вечная памяць!»

Яшчэ ў 2005 годзе я прысвяціў Святлане Кліменцэнка верш. Хацеў, каб ён з'явіўся на старонках «Народнай Волі». Але яе прыродная сціпласць не дазволіла тады рэдактару надрукаваць яго.

1

Светлая, прасветлая Святлана,
Не сышоў падзеяў цёмны фон,
Цяжка так душу вярэдзіць ён,
Светлая, прасветлая Святлана!
У чародках непаўторных дзён
Хочацца палётаў не ў нірвану…
Светлая, прасветлая Святлана,
Не сышоў падзеяў цёмны фон.

2

А пачаткам радасных падзей
Стане разняволеная слова.
Слова – ўсіх падзеяў, дзей аснова,
Гэта – найвялікшы скарб людзей!
Хоць у рэчаіснасці суровай
Верыцца у лепшае радзей,
А пачаткам радасных падзей
Стане разняволеная слова.

**Васіль ЖУКОВІЧ, паэт.**



З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

Вольга ЧУПРЫС,
намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта Рэспублікі Беларусь:

# Пра малую радзіму і асабістае



– Я мінчанка, але малой радзімай лічу Лагойскі раён, адкуль родам бацькі. Менавіта там я праводзіла вакацыі ў бабуль, знаёмілася з прыгажосцю нашай беларускай прыроды, даведвалася пра ўсю спецыфіку сельскага жыцця. Непаўторны час, выдатныя ўспаміны: усё лета ездзіла на веласіпедзе, купалася ў рэчцы, чытала кнігі… Памятаю, як у суседняй школе іграла на фартэпіяна, а мясцовыя дзеці прыбягалі паглядзець у акенца і паслухаць мае кампазіцыі.

Сям'я – самае важнае ў жыцці кожнага чалавека. Я шчаслівая мама траіх сыноў. Старэйшы выбраў маю прафесію, скончыў юрфак БДУ, цяпер працуе ў пракуратуры. Сярэдні – будучы педыятр. А малодшы яшчэ вучыцца ў школе і на сёння бачыць сябе ў галіне IT. Вольны час праводжу з карысцю для сябе, гэта актыўныя віды спорту – лыжы, плаванне, бег. І, вядома ж, не ўяўляю свайго жыцця без кніг.

(«Беларускі ўніверсітэт».)

РЭХА

## Падтрымліваць трэба не замежных аўтавытворцаў, а сваіх

У адной з дзяржаўных газет прачытаў, што сёлета значна папаўняецца аўтапарк Дэпартамента па ахове Міністэрства ўнутраных спраў. Дзяржбюджэтныя грошы вырашана накіраваць на набыццё не іншамарак, а машын, якія выпускаюцца ў нас, у Беларусі. У міліцэйскіх гаражах з'явіцца 160 новенькіх легкавых аўтамабіляў Geely.

Вось гэта правільна! Падтрымліваць трэба не замежных вытворцаў, а сваіх. Прыклад Дэпартамента па ахове павінны пераняць усе дзяржаўныя структуры.

**Вольга КУРЫЛЬЧЫК, служачая.**

ДУША БОЛИТ…

# Беспорядок на могилах

Во время рождественских и новогодних праздников я был на своей малой родине в Дзержинском районе. И увидел, как местные власти, можно сказать, осквернили место, где захоронена четвертая часть жителей довоенного Дзержинска. Это в райцентре по улице Первомайской. Уже долгое время здесь не ведется никаких работ по благоустройству этой святой территории. Убран старый памятник, разворочена земля, отсутствует ограждение… Смотришь на все это безобразие, и появляется крайне неприятный осадок. Есть районный Совет ветеранов, есть общественные организации «Белая Русь», БРСМ, Красный Крест и другие. Неужели они этого не видят? Почему бездействуют местные власти?

Скоро будет Радуница, приближается 75-летие Великой Победы – встанет вопрос: куда можно прийти, чтобы почтить память похороненных людей и поставить цветы?

**Михаил Николаевич ЩУПЛИК,**
**чья малая родина**
**в Дзержинском районе.**

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ

## Хоць гаспадар на іншым свеце, але выносіць з хаты смецце

Да гамяльчанкі Аляксандры Р. завітаў судовы выканаўца, каб апісаць маёмасць за доўг перад жылкамгасам за вываз смецця. З улікам пені сума была немалой. Высветлілася, што размова ідзе пра хату ў прыватным сектары, якая дасталася жанчыне ў спадчыну і згарэла тры гады таму. А жылкамгас працягваў выпісваць плацежныя квітанцыі…

Ноч беспрагляднаю была,
Калі гарэла хата.
Да раніцы яе датла
Агонь лізаў заўзята.
З людзей у хаце – ні душы,
Суседзі спалі, пэўна,
Ніхто не кінуўся тушыць,
Уціхамірваць «пеўня».
Даўно няма гаспадара –
Не йдзе на папялішча,
І толькі голасна з двара
Здзічэлы вецер свішча,
Наогул вельмі сумны від
Там, дзе была сяліба…
«Водаканал», «Энергазбыт»
Ужо маўчаць, як рыбы,
Бо атрымалі звесткі там
Аб спапялелай хаце,
Таму не шлюць гаспадарам
Квітанцый аб аплаце.
І толькі сонны жылкамгас
Нібы застыў у часе.
Цыдулкі шле за разам раз:
Маўляў, у жылкамгасе
Вы не бывалі шмат гадоў,
Не зазіралі ў касу;
За вываз смецця (сто пудоў!)
Павінны жылкамгасу.
Аднак маўчаць гаспадары,
Тым больш не плацяць грошай.
Сямейка, што ні гавары,
Здаецца нехарошай.
«Калі ніхто да нас не йдзе,
Калі ў адказ – ні слова,
Управа знойдзецца ў судзе –
Заплацяць прымусова! –
Зрабіць рашылі ход канём
У жылкамгасе цёткі. –
Як суд на злыдняў нацкуём,
Дык вырвем грошы ўсё-ткі».
Суду не трэба часу шмат,
Суд на расправу скоры:
Штампуе ён завочна нат
Рашэнні-прыгаворы…
А неўзабаве ў жылкамгас
Прыджгала маладзіца.
Сказала:
– Я прыйшла да вас,
Каб трохі пасварыцца.
Мае няшчасныя бацькі
Ужо на іншым свеце.
Чаму ж не слалі вы квіткі
Туды «за вываз смецця»?
Заселі тут, як каралі! –
Працягвала атаку. –
А каб хацелі, каб змаглі
Падняць, прабачце, ср…ку
Ці проста глянуць у акно,
Прыўзняўшы з крэсла цела,
Дык згледзелі б (адсюль відно!),
Што хаты ўжо даўным-даўно
Нямашака, згарэла.
І ёй за ўсіх дала адказ
Дзябёлая кабета:
– Пра хату знае жылкамгас,
Ды нам начхаць на гэта,
Бо пра пажар папер няма.
Таму я хату бачу
І кожны раз яе сама
Уношу ў справаздачу.
А пра бацькоў і не кажы –
Без іх там смецця досыць,
Бо аціраюцца бамжы
Ці на сялібу хтось чужы
Свой хлам і смецце зносіць…

* * *

Што можам мы сказаць цяпер
«Уважлівай» кабеце?
Набытак ваш – гара папер,
Яны якраз і смецце…

## Тоўстыя сцены

Паўвеку пражыў нездарма
І вывад зрабіў несумненны:
Суседзяў харошых няма,
А ёсць толькі тоўстыя сцены.

## Пасля ўчарашняга

Я скажу ад усіх небарак,
Што наглыкацца здолелі ў дым:
За ўчарашняе сорамна так!
Ды не помніш зусім – перад кім…

## Радыкуліт

– Дзе праваўдзеш ты сёння вечар?
– Як кажуць, з жонкаю на печы…
– У вас каханне – як граніт!
– Я б не сказаў… Радыкуліт!

## «Удалая» аперацыя

Карпелі эскулапы ля стала…
Адзін другому кажа ў калідоры:
– Удала аперацыя прайшла.
Шкада, што не давядецца хворы…

ВОПРОС – ОТВЕТ

## Когда приказ начальника – не закон

*Я проживаю в Брестском районе. Нас, бюджетников, руководители организаций заставляют в обязательном порядке выписывать районную газету «Заря над Бугом». Принуждают к тому, к чему не лежит моя душа. Скажите, почему меня заставляют читать то, что мне совершенно не интересно?*

*Я читаю только те газеты, которые мне нравятся, например «Народную Волю».*

*Почему я должен в обязательном порядке выделять из своего бюджета 16 рублей 47 копеек на эту районную газету?*

**Н.А.КРАВЧУК. Брестский район.**

*ОТ РЕДАКЦИИ*

Уважаемый Н.А.Кравчук!

Никто не имеет права принуждать Вас подписываться на ту или иную газету. Это дело добровольное. Поэтому Вы спокойно можете проигнорировать указание своего начальника.

СПАСИБО!

# Видели б вы тогда мое состояние…

Уважаемый главный редактор!

С огромной просьбой обращаюсь к Вам я, ветеран Вооруженных Сил СССР и труда. Мой общий стаж составляет 70 лет.

Прошу Вас позволить мне через «Народную Волю», которую я считаю действительно народной, выразить огромную благодарность жителю Новополоцка, такому же пенсионеру, как и я, Александру Ивановичу Кондратюку. За то, что он оказал мне материальную помощь, частично оплатив хирургическую операцию, так как у своего любимого государства я, видите ли, не заслужил и не заработал права на бесплатное лечение.

Если б Вы, Иосиф Павлович, знали мое душевное состояние, когда почтальон принес мне денежный перевод от человека, которого я даже в глаза никогда не видел!

И какая обида на государство, за которое погибли мои родители, защищая Родину от фашистов, после чего мы с сестрой оказались в детском доме и никогда не испытывали родительской ласки и любви, а это очень тяжело переносить!

Я хочу, чтобы о доброй душе Александра Ивановича знали все читатели «Народной Воли». А живет он в Новополоцке на улице Молодежной.

В свое время я пытался обратиться за помощью через главную государственную газету, но она не напечатала мое письмо, а направила в военкомат, который сам сидит на шее у государства.

Мое письмо было напечатано в «Народной Воле», и оно нашло отклик в душе небезразличных людей. Я думаю, что Александр Иванович прочитает мои благодарственные строки в его адрес. Спасибо Вам, милый человек!

Счастья, здоровья и процветания Вам, уважаемый главный редактор, и всего наилучшего замечательному коллективу «Народной Воли»!

С уважением –
**Эрнест ВЕРЖИНСКИЙ,**
**житель г.Червеня.**

ОТЗОВИТЕСЬ!

# …А мы еще живы

Я – бывший воспитанник Воложинского спецдетдома. Отношусь к категории тех, чьи родители погибли в годы Великой Отечественной войны. И мне обидно, когда кое-кто из сегодняшних высокопоставленных чиновников в упор нас не видит: мол, никаких «детей войны» у нас нет. Чисто сталинский подход: нет человека – нет проблемы.

Но мы, испытавшие сиротство в трудное время, еще живы, хотя нам уже под 80 лет и даже больше. В свое время на наши плечи легла огромная тяжесть восстановления разрушенного хозяйства. Очень много наших детдомовцев было направлено на работу в Минск, в другие города.

Прошу Вас напечатать в газете эти мои строки. Это поможет собрать максимальное количество участников встречи, которую мы организовываем. Телефон для связи: **8-033-638-43-21 (МТС).**

Я выписываю «Народную Волю» с первого номера, а в этом году оформил подписку и внуку, который учится в Минске в Лингвистическом университете.

Спасибо за крайне нужную газету!

С прошедшими Новым годом и Рождеством коллектив газеты! Желаю вам здоровья – самого большого счастья!

**Николай ШАЙКО.**

ОСОБЫЙ ВЗГЛЯД

# Не драматизируйте ситуацию

Такого накала страстей в газетных публикациях, на телевидении, в информационных подборках сайтов, кажется, никогда не было. Шпаги оппонентов скрестились в основном вокруг конфликта Кремля и Минска. Если глубоко вчитываться в комментарии многих так называемых экспертов, то получается, что если не завтра, то послезавтра для Беларуси наступит коллапс.

А я считаю, что никакого коллапса не будет не то что завтра-послезавтра, но и в отдаленной перспективе. Не нужно пугать людей тем, что поскольку Путин не пойдет на уступки Лукашенко и Россия не вернет нам старые цены на нефть, то наш бюджет, как любят некоторые выражаться, накроется медным тазиком, резко упадут и без того невысокие зарплаты, не будет денег на поддержку многодетных семей, реализацию других важных социальных программ.

Сколько подобных страшилок, помню, раздавалось и двадцать, и тридцать лет назад! В период распада Советского Союза ситуация была гораздо хуже, чем сейчас, но выжили, никакого коллапса не случилось. И прежде всего потому, что белорусы, если брать историю, оказывались и не в таких переплетах, у нас уже в генах заложены качества, способствующие самовыживанию.

Давайте прямо скажем: государственный бюджет – это не панацея для каждой семьи, каждого жителя страны. Я другой раз анализирую официальные статистические данные и прихожу к выводу: многие из них очень далеки от реальных цифр. Возьмем ту же среднюю зарплату. Согласно Белстату, она у нас едва перевалила за тысячу рублей. А по моим расчетам реальная среднестатистическая цифра намного больше. Поглядите, сколько в Минске и вокруг столицы одних только шабашников – десятки тысяч! Сегодня каждый из них имеет в день не менее сорока-пятидесяти долларов, в месяц – тысячу и больше. А учитывается это где-нибудь? Нет. Как и то, сколько налогов недополучает государство.

А возьмем другой пример. Огромнейшее количество наших людей выезжает трудиться в соседние страны – Россию, Польшу, Литву, Чехию, Германию… Пополняют они белорусский государственный бюджет? Конечно, нет. Но свой семейный бюджет они, понятно, укрепляют. Поэтому для них не смертельно, если чего-то они недополучат из казны. Да они на нее особо и не рассчитывают, строя свою жизнь, как считают нужным, и выживают, как могут.

Одним словом, государство у нас существует по одним законам, а многие, очень многие люди, как говорится, по другим – своим. Так не должно быть. Но так есть. И не надо драматизировать ситуацию. В любом случае никаких катаклизмов в Беларуси не будет ни через месяц, ни через год, ни через пять лет…

**Виктор КУЖЕЛЬНЫЙ,**
**ветеран труда.**

ОБРАТНАЯ СВЯЗЬ

# При чем тут змея?

Здравствуйте, уважаемая Елена Сыманович!

Решила с Вами поспорить. Меня шокировал заголовок в заметке, которую Вы написали в газету: «Газета – не змяя, у якой два языкі». При чем тут змея? Мы – билингвы, об этом не надо забывать. Так исторически сложилось, что в Беларуси большинство людей говорят по-русски. Мне 70 лет, а когда я училась в школе, меня на лето отправляли в деревню к тете. Приехав в город, я говорила по-белорусски. Мама приказывала: «Говори правильно!» (она, кстати, всю жизнь проработала учительницей начальных классов). И все говорили на русском языке. Реки нельзя повернуть вспять. И насчет большей принципиальности в разговорном вопросе с Вами категорически не согласна.

В «Народной Воле» столько ярких публикаций на белорусском языке! Один Алесь Няўвесь чего стоит! А Михась Скобла!

Я люблю читать Елену Молочко. У нее лучше получается писать по-русски. Она так просвещает народ! Талантливая, высокообразованная журналистка.

Знаете, о чем я мечтаю? Чтобы те, кто стоит у власти, сидит в парламенте, ездит в транспорте, ходит по магазинам, не насмехались над людьми, которые говорят по-белорусски.

Малограмотных, малообразованных да и просто злых людей у нас в стране достаточно много.

Спасибо «Народной Воле» за всё!

**Анна МЕДВЕДЕВА.**

*Минск.*

Народная Воля
http://www.nv-online.info
28 СТУДЗЕНЯ 2020 г.

ВЕДАЙ НАШЫХ!

# Беларускі фільм перамог у Італіі

*Фільм рэжысёра Аляксея Палуяна «Возера Радасці», зняты паводле рамана беларускага пісьменніка Віктара Марціновіча, прынёс аўтарам чарговую (здаецца, ужо мільярдную!) перамогу – на гэты раз на Міжнародным фестывалі Trieste Film Festival у Італіі. Пра гэта напісаў сам Палуян у "Фэйсбуку": «Рушым наперад, сябры!»*

Trieste Film Festival – штогадовы фестываль кіно, які праводзіцца ў італьянскім горадзе Трыест на паўночным усходзе краіны. Мэта гэтай падзеі – заклікаць да дыскусіі ў сферы аўдыёвізуальнага мастацтва і паказаць асаблівыя бакі праблем і культуры тых краін, у якіх здымаліся фільмы – удзельнікі фэсту, паведамляе kyky.org. Trieste Film Festival у фармаце конкурсу выбірае лепшыя поўнаметражныя, дакументальныя і кароткаметражныя аўтарскія карціны. «Возера Радасці» стала пераможцам у катэгорыі кароткага метра.

Усе заслугі кінастужкі Аляксея Палуяна можна пералічваць бясконца. Так, праект ужо атрымаў тры ўзнагароды іспанскага Ficbueu, прыз на кінафестывалі ў Грэцыі, дзве ўзнагароды фэсту ў Нявадзе; ён стаў лідарам у намінацыі «лепшы кароткаметражны фільм» нямецкай кінапрэміі Hessen Film Awards.

А наогул, «Возера Радасці» паказвае гісторыю дзевяцігадовай Ясі. Пасля смерці маці жыццё дзяўчынкі рэзка мяняецца, і яна трапляе ў інтэрнат…

Здымкі вяліся ў чатырох вёсках Ляхавіцкага раёна Брэсцкай вобласці. У стужцы гучыць музыка беларускага этнагурта Vuraj. *«Возера Радасці» – асабісты для маёй сям'і фільм. Я хацеў паказаць драму дзіцяці, якое ў дзевяць гадоў адважваецца будаваць свой шлях самастойна. Не кожны дарослы чалавек гатовы да гэтага выбару, а Яся змагла»*, – адгукаўся аб праекце Аляксей Палуян.

ДУХОЎНЫ СКАРБ

# Шагала прадалі на аўкцыёне за 110.000 долараў

Карціна Марка Шагала "Лесвіца Якава" дваццаць гадоў таму знікла з галерэі ў Тэль-Авіве і незразумелым чынам знайшлася ў 2015 годзе. Не ў зборах калекцыянера, не ў музейным запасніку, а сярод рэчаў звычайнай жыхаркі Іерусаліма. Карціну выявілі сваякі жанчыны пасля яе смерці. Як у яе доме апынуўся твор сусветна вядомага мастака – ніхто не змог растлумачыць. Тым не менш карціну сёлета прадалі на аўкцыёне за 110.000 долараў. Нагадаем, што ў музеі Марка Шагала ў Віцебску, адкуль ён родам, няма ніводнай жывапіснай працы мастака.



**Антон ЗАГОРСКІ.**

ЗА ОКЕАНОМ

# Разлученные семьи, воссоединяйтесь!

*«Добро пожаловать, мигранты и беженцы!» – с таким плакатом активисты, ведущие борьбу за воссоединение разлученных семей, собрались в аэропорту Лос-Анджелеса.*

Девять родителей, высланных администрацией Дональда Трампа, вернулись в США, чтобы обнять наконец своих детей. Они не видели их полтора года. Эти люди прибыли в Калифорнию из Гватемалы по распоряжению федерального судьи, установившего, что правительство США незаконно препятствовало им в поиске убежища. В аэропорту своих пап с нетерпением ждали 9-летний Дэвид Ксол Байрон и 7-летняя Элисон Арредондо.

Как пояснила Кончита Круз, исполнительный директор Ассоциации по защите прав просителей убежища, это воссоединение девяти семей стало напоминанием американскому общественному мнению о долгосрочных последствиях политики разделения семей, введенной Трампом. По ее словам, сотни, а то и тысячи родителей и детей все еще живут порознь после вступления в силу политики «нулевой терпимости» к нелегалам, пересекающим границы США, сообщает «Евроньюс».

Согласно статистике ассоциации, более 4000 детей были разлучены с родителями с весны 2018 года. В соответствии с политикой «нулевой терпимости» агенты Погранично-таможенной службы обвиняли родителей в незаконном пересечении американо-мексиканской границы и высылали, а детей, в том числе младенцев, помещали в государственные приюты на американской территории.

МИРОВАЯ ПРОБЛЕМА

# На грани катастрофы

*По мнению всемирно известного британского натуралиста и телеведущего сэра **Дэвида Аттенборо**, попытки человечества бороться с изменениями климата зашли в тупик.*

«Прямо сейчас горит юго-восток Австралии. Почему это происходит? Потому, что повышаются температуры Земли», – сказал телеведущий в интервью BBC News, ознаменовавшем начало спецпроекта Би-Би-Си, посвященного проблемам климатических изменений.

Некоторые политики и эксперты считают, что эти вещи никак не связаны, но это, по мнению Аттенборо, «полная чушь», поскольку все прекрасно знают, что жизнедеятельность человека – причина потепления на планете.



## Что означает «момент кризиса»?

Натуралист обращает внимание на то, что ученые-экологи призывают к незамедлительным действиям, но международные переговоры по вопросам климата продвигаются невыносимо медленно.

Недавнюю встречу в Мадриде, например, Генсек ООН, правительство Великобритании и еще ряд международных игроков назвали пустой и нерезультативной.

Решения по ключевым вопросам снова не были приняты. В адрес нескольких стран, включая Австралию и Бразилию, прозвучали обвинения в том, что они пытаются уклониться от выполнения своих обязательств.

«Нам пора понять, что это не игра. Это не просто приятные встречи, на которых можно поспорить друг с другом и уехать с компромиссом в кармане. Это серьезная проблема, которую надо безотлагательно решать, и, более того, – мы знаем, как это сделать», – говорит сэр Аттенборо.

Парадокс, по его мнению, в том, что человечество отказывается идти на конкретные шаги, хотя прекрасно понимает, что их необходимо предпринять.

## Что это за шаги?

В 2018 году группа ученых под эгидой ООН опубликовала доклад, в котором указала, каким образом можно попытаться избежать опасного роста температур в будущем.

В частности, к 2030 году предлагается вдвое сократить выбросы в атмосферу парниковых газов, виновниками которых в первую очередь являются электростанции, заводы, транспорт и деятельность в области сельского хозяйства.

Но происходит ровно обратное.

Объемы выбросов продолжают увеличиваться, а содержание самого опасного вещества – диоксида углерода (углекислого газа) – в атмосфере достигло самой высокой отметки за всю историю человечества.

По мнению Дэвида Аттенборо, время уходит, и с каждым годом будет все труднее затормозить процесс изменения климата.

## Почему это важно именно сейчас?

Многие надеются, что 2020 год станет поворотным в борьбе с глобальным потеплением. В ноябре в Глазго состоится климатический саммит ООН, от которого ожидают прорыва.

В частности, ожидается, что к началу саммита ряд стран значительно улучшит свои показатели в области выбросов в атмосферу.

Но даже если все страны выполнят свои обязательства (хотя гарантий этому нет), средняя температура на планете к концу XXI столетия все равно может вырасти на три градуса по Цельсию.

В своих последних оценках ситуации Межправительственная группа экспертов ООН по изменению климата (IPCC) предупредила, что такая опасность реальна.

По мнению экспертов, повышение температуры более чем на 1,5 градуса повлечет за собой наводнения в прибрежных районах, периоды экстремальной жары и разрушение коралловых рифов.

## Что дальше?

В данный момент, похоже, продолжение глобального потепления неизбежно.

«Мы уже живем в изменившемся мире», – говорит профессор британского Университета Рединга Эд Хокинс. Его графические изображения глобального потепления очень популярны в соцсетях.

С помощью разных оттенков красного и синего цветов он изображает ежегодные колебания температур по отношению к средним показателям. Красный цвет отображает потепление, голубой – похолодание.

Эти рисунки печатают на майках, шарфах, а в Германии даже появился трамвай, разрисованный графикой профессора Хокинса.

До сих пор темно-красным цветом Хокинс изображал самый высокий уровень потепления, но, например, в Северном Ледовитом океане наивысший показатель наблюдается год за годом, и профессору надо искать новый цвет, отображающий еще более высокий уровень проблемы.

«Думаю, я начну использовать темный фиолетовый или даже черный цвет, – говорит он. – Люди думают, что изменение климата – отдаленная перспектива, но столько примеров по всему миру, в Австралии, например, это происходит уже сейчас».

## Какие еще задачи стоят в 2020 году?

Пока мировые лидеры будут заниматься проблемой изменения климата, мы можем сконцентрироваться на нас самих, на том, как мы сами воздействуем на экосистемы, говорит сэр Дэвид Аттенборо.

«Мы зависим от природы – от воздуха, которым дышим, от пищи, которую она нам дает», – напоминает натуралист.

В этом году в китайском городе Куньмин пройдет масштабная конференция, посвященная защите природы. На нее приглашены все мировые лидеры.

В прошлогоднем докладе группы экологов говорится, что миллиону видов животных, насекомых и растений грозит полное исчезновение в ближайшие десятилетия.

Строительство городов, вырубка лесов под фермерские хозяйства и растущий спрос на рыбу значительно изменили ситуацию почти на 75% суши и в большей части мирового океана.

Профессор лондонского Музея естествознания Энди Парвис, один из исследователей и авторов доклада, уверен, что, вторгаясь в среду обитания животных, мы своими руками роем себе яму, разрушаем окружающую среду, от которой зависим.

Значение, по его мнению, имеет все – от использования пальмового масла в продуктах питания и шампунях до удовлетворения потребностей индустрии моды.

По мнению Энди Парвиса, развитые страны своими руками поставили под удар окружающую среду в бедных странах, которым не под силу поддерживать экологию, страдающую от массового производства.

Встреча в Куньмине пройдет в октябре, за месяц до саммита ООН в Глазго, подтверждая, что этот год имеет решающее значение для построения здоровых отношений с нашей планетой.

ИЗ-ЗА РЕШЕТКИ

# Абызов не смог вспомнить домашний адрес

*Уроженцу Беларуси миллиардеру Михаилу Абызову, который с марта 2019 года находится в СИЗО, вновь продлили арест – он пробудет в «Лефортово» еще как минимум два месяца. На заседании суда Абызов пожаловался на острое неврологическое расстройство, однако более убедительными оказались доводы следствия.*

Басманный суд Москвы в конце минувшей недели оставил еще на два месяца в СИЗО «Лефортово» бывшего министра по делам «Открытого правительства» Михаила Абызова. Продлен срок содержания под стражей также двум экс-руководителям подконтрольных ему структур – экс-гендиректору группы RU-COM Николаю Степанову и экс-главе компании СИБЭКО Александру Пелипасову.

В суд приезжала гражданская жена Абызова Валентина Григорьева, а также бывший топ-менеджер «Роснано» Леонид Меламед.

Процесс начался с неожиданных заявлений Абызова. Сначала он не смог вспомнить свой домашний адрес в Москве. «Посмотрите в материалах дела», – попросил он судью Карпова. А потом сообщил, что ему диагностировали острое неврологическое расстройство, которое негативно сказалось на его опорно-двигательной системе. «Завтра я начинаю четвертый курс лечения. Три курса, которые были до этого, не дали результата», – заявил экс-министр. В подтверждение слов Абызова его адвокат Руслан Кожура передал судье консультативное заключение невролога из Лефортово (СИЗО №2).



Адвокат уверял суд, что Абызова необходимо детально обследовать – как минимум провести МРТ, но в следственном изоляторе нет технических возможностей.

Оставить всех троих обвиняемых под стражей просил следователь Сергей Степанов. Он приводил стандартные доводы: оказавшись на свободе, обвиняемые вступят в сговор, будут препятствовать расследованию, уничтожат доказательства. «Абызов владеет недвижимостью в Италии и Великобритании. На его счетах арестованы более 28 млрд рублей», – перечислял имущество бывшего министра Степанов. Ходатайство следователя о продлении ареста поддержала и прокурор.

Обвиняемые и их адвокаты в свою очередь просили заменить меру пресечения на домашний арест либо освободить Степанова под залог в 10 млн рублей, а Пелипасова – 3 млн рублей. По Абызову сумма залога названа не была, при том что в марте 2019 года его защитники в суде предлагали залог в 1 млрд рублей – эту сумму за Абызова готов был внести миллиардер Роман Троценко.

Как поясняли позже в своих выступлениях адвокаты и сами обвиняемые, в деле пока содержится только одна экспертиза, проведенная по запросу ФСБ экспертом Алешиным в 2018 году, за год до ареста Абызова и его предполагаемых соучастников.

«Я не признаю себя виновным. Я не создавал преступное сообщество и не совершил иных действий», – сказал Абызов. Затем он буквально повторил свои показания, которые давал следователю еще в сентябре. «Мне непонятна суть предъявляемых обвинений: когда, где и при каких обстоятельствах были совершены преступления? Следователь Степанов Сергей Сергеевич заявил мне, что вменяемые деяния заключаются в хищении акции компаний СИБЭКО и РЭС. Но я обращаю внимание, что мне не предъявлялось обвинение в хищении акций. Меня подозревают в хищении денежных средств у акционеров», – говорил Абызов.

Он находится под арестом с марта 2019 года. Ему предъявлены обвинения в создании преступного сообщества, особо крупном мошенничестве, а также в незаконном участии в предпринимательской деятельности и легализации средств (статьи 210, 159, 289 и 174.1 Уголовного кодекса). По версии следствия, весной 2013 года компания Абызова «Сибэнергострой» продала кипрскому офшору Blacksiris Trading Limited, также подконтрольному Абызову, компании НЭСКО, «Инженерный центр», ПРП и ЭСМ. Сумма сделки составила 186 млн рублей. После сделки приобретенные офшором компании объединились с компаниями, которые в 2012 году учредил Blacksiris – АСС, ПРиС, ПЭСК и РЭМиС. А уже в декабре 2013 года Blacksiris продала эти структуры принадлежащим Абызову компаниям СИБЭКО и РЭС. Сумма сделки – 4 млрд рублей – по версии следствия была завышенной. Эти деньги были перечислены в Blacksiris, а миноритарии СИБЭКО и РЭС (граждане Рубцов и Акопян, а также ФГУП «Внешнеэкономическое объединение «Алмазювелирэкспорт») пострадали от действий экс-министра, считает следствие. Сам бывший министр вину не признает.

У СОСЕДЕЙ

# Польская оппозиция сменила лидера

*Крупнейшая оппозиционная партия Польши «Гражданская платформа» получила нового лидера. Движение возглавит экс-министр юстиции **Борис Будка.***

На внутрипартийных выборах его поддержали более 80% избирателей, он обошел троих соперников. В избиркоме партии результат назвали «надежным мандатом и хорошими перспективами на будущее». Официально итоги голосования будут объявлены в среду, и тогда же Будка вступит в должность.

**Борис Будка, избранный лидер «Гражданской платформы»:** *«Я уже получил множество поздравлений, в том числе от моих политических противников. Очень мило с их стороны меня поздравить. Но теперь время поздравлений кончилось».*

Предыдущий лидер партии Гжегож Схетына в начале января объявил, что не собирается переизбираться. По его словам, «Гражданской платформе» необходимо обновление. Однако кандидат, которого поддерживал Схетына, уступил Будке.

На октябрьских парламентских выборах польская оппозиция показала не самый выдающийся результат. Коалиция во главе с «Гражданской платформой» получила 27% голосов.

Народная Воля http://www.nv-online.info
28 СТУДЗЕНЯ 2020 г.

АСОБА

# Леанід ЛЕВАНОВІЧ: «Мой першы ганарар – 100 грамаў самагонкі»

*У вёску Пятрылава на Вілейшчыну мяне даўно клікаў пісьменнік Леанід Левановіч: «У нас тут лес кругом, паветра – як на курорце, прыязджай, не пашкадуеш». І вось нарэшце я выбраўся з тлумнага Мінска. Адразу за Радашковічамі на прыдарожных знаках пачалі мільгаць назвы санаторыяў «Сонечны», «Сасновы бор» – як падказка, што мясціны тут сапраўды курортныя. Ехаў я не толькі паветрам падыхаць, але і павіншаваць калегу з выхадам у свет рамана «Міленіум», які стаў этапным у творчасці вядомага празаіка. З пытання пра яго раманны цыкл і пачалася наша гутарка ва ўтульнай вясковай хаце.*

**– Леанід Кірэевіч, у Івана Шамякіна і Івана Чыгрынава былі серыі па пяць раманаў, з’яднаныя аднымі героямі. У вас – сем раманаў, своеасаблівае сямікніжжа. Вы спецыяльна пастараліся колькасна пераўзысці класікаў?**

– І думкі такой не было! Дадам, што Іван Мележ задумваў сем раманаў, на жаль, паспеў напісаць толькі два з паловай. А найбольш маштабныя задумы меў Кузьма Чорны, нават запісаў у дзённіку, вярнуўшыся са сталінскай турмы: «Божа, напішы за мяне мае раманы – хіба так маліцца, ці што?» Але неўзабаве ён пакінуў гэты свет. У нашай літаратуры столькі няспраўджаных задум! Так што мне ў гэтым плане пашанцавала. Я сваё сямікніжжа завяршыў. У першым рамане «Шчыглы» падзеі адбываюцца ў 1943–1945 гадах – акупацыя, вызваленне, жыццё ў зямлянках, перамога, першае пасляваеннае лета майго героя Андрэйкі Сахуты. Другі раман «Паводка сярод зімы» – 1949–1950 гады: пачатак «халоднай вайны», а людзі радаваліся мірнаму жыццю. У рамане «Дзікая ружа» – смерць Сталіна; помню, як плакала мая настаўніца: аёй-аёй, што ж далей будзе?..




**– У Мінску на Кастрычніцкай плошчы пяціметровы помнік правадыру вянкамі ледзь не па грудзі аблажылі.**

– Хто плакаў, а хто ўпотай радаваўся. Далей раман «Сіняе лета» – палёт Гагарына ў космас, Хрушчоў паабяцаў камунізм праз 20 гадоў. Замест камунізму мы атрымалі застой, пра гэта я расказаў у рамане «Бесядзь цячэ ў акіян». Назва падкрэслівала, што ў прыродзе застою не было. Развал СССР і Чарнобыль знайшлі сваё адлюстраванне ў рамане «Палыновы вецер». А потым мне захацелася звязаць два тысячагоддзі, і летась з’явіўся сёмы раман – «Міленіум». Прызнацца, дапісаўшы яго, я адчуў спустошанасць…

**– Гэта і не дзіўна – такая велічэзная праца! Засмучаюць хіба дзве лічбы: першы раман выйшаў накладам 11.000 асобнікаў, апошні – усяго 150.**

– У 1986-м, калі выйшлі «Шчыглы», быў сапраўдны росквіт беларускай літаратуры. Такога ўжо ніколі не будзе – кнігу замяніў інтэрнэт. Ва ўсім свеце сталі чытаць менш. А французскі філосаф Дэні Дзідро ў свой час гаварыў: «Калі чалавек перастае чытаць, ён перастае мысліць». Камп’ютарныя гульні, карцінкі-смайлікі, розныя тэлешоу задурваюць людзям галаву.

**– Вы нарадзіліся ў шматдзетнай сям’і, маленства ваша прыпала на пасляваенныя галодныя і халодныя гады. А што вас змусіла падацца ў пісьменнікі?**

– У маіх бацькоў было пяць сыноў і пяць дачок. На пытанні суседзяў, як можна было так вымеркаваць, бацька з усмешкаю адказваў: «Калі плануем хлопца, кладзем пад падушку сякеру, а калі дзяўчынку – то серп». У паваеннай вёсцы жылося сапраўды вельмі цяжка – улада душыла падаткамі: здай мяса, малако, яйкі, воўну… Хоць у хаце не было ніводнай кніжкі, вучыўся я добра. Неяк, прачытаўшы «На прасторах жыцця» Якуба Коласа, захацеў і сам запісаць свае назіранні над птушкамі, а паперы няма. Я ўзяў чыстую «Працоўную кніжку калгасніка» (бацька працаваў рахункаводам), вывеў на вокладцы «Шчыглы» і напісаў першы сказ: «Быў светлы сонечны дзянёк».

**– Дык вы адразу на раман нацэліліся? Я недзе чытаў, што пачыналі вы з фельетонаў, у якіх крытыкавалі мясцовую ўладу.**

– Фельетон быў першай маёй публікацыяй у касцюковіцкай раёнцы. Шаснаццацігадовым падлеткам я прыехаў дамоў на канікулы з культасветвучылішча ў Магілёве. Пайшоў на Бесядзь купацца, гляджу – свінні кукурузу дратуюць. Я напісаў у газету, апублікавалі. Старшыню калгаса выклікалі ў райкам, далі вымову. Вечарам ён прыйшоў да нас, паўшчуваў мяне і – распарадзіўся выпісаць нам дадатковую палоску сена. Узрадаваны бацька – яечню і бутэльку самагонкі на стол! І мяне прымусілі выпіць чарку. Так што мой першы ганарар – 100 грамаў самагонкі. Але ад той «Працоўнай кніжкі калгасніка» да рамана «Шчыглы» было яшчэ далёка.

**– Пятрылава ўжо прапісана ў беларускай літаратуры не толькі як вёска Левановіча, а яшчэ і дзякуючы радкам выдатнага паэта Алеся Пісьмянкова: *«Певень залопаў крыламі, / Лясныя будзячы нетры. / Рана ўстае Пятрылава – / Пятрылаву трэба петрыць»*. А як перажывае Пятрылава такую анамальна цёплую зіму? Як рэагуе прырода?**

– Я пражыў 80 з гакам гадоў і такой цеплыні ў студзені не помню. На кустах бэзу набухлі пупышкі, мае пчолы з вуллёў выляталі. Але падобныя цёплыя зімы здараліся ў Беларусі і раней. Скажам, яшчэ ў Баркулабаўскай хроніцы запісана: «У год 1588 аж да Раства Хрыстовага было так цёпла, што травы зазелянелі, з-за дажджоў у Дняпры вада прыбывала і з берагоў выходзіла». А пасляваенныя зімы на маёй роднай Магілёўшчыне ўспамінаюцца снежнымі, гурбы намятала ўпоравень са стрэхамі. Спадзяюся, і сёлета яшчэ прычакаем сняжку, і спытае люты, хто як абуты.

**– Вы неаднаразова ў СМІ (у тым ліку на старонках «Народнай Волі») гаварылі пра балючую праблему – адсутнасць асфальтаванай дарогі з Радашковічаў да Пятрылава і яшчэ дзесяці вёсак. Справа па-ранейшаму ні з месца?**

– Пасля леташняй публікацыі ў «Народнай Волі» на сайце Мінскага аблвыканкама з’явілася добрая навіна: на канец 2019 года запланаваны капрамонт дарогі Радашковічы – Загорцы – Карпавічы. Інфармацыю тут жа передрукавалі вілейская раёнка, маладзечанская «Рэгіянальная газета», якая ахоплівае сем раёнаў, людзі ўздыхнулі з палёгкай. Год закончыўся, я ў сельсавет, а мне кажуць: у план уключылі, а фінансавання няма. Як жа так? Падманулі сотні людзей! А тым часам асфальтавы завод у вёсцы Ілля стаіць, рабочыя сядзяць без заробку.

**– Вы заўсёды ганарыцеся сваёй роднай Магілёўшчынай, з’яўляецеся ганаровым грамадзянінам Касцюковіцкага раёна. Растлумачце мне, чаму на Магілёўскім аблвыканкаме да гэтай пары вісіць герб БССР? Гэта ж знявага сучаснага дзяржаўнага герба.**

– Згодны. Гэта вынік нашага гістарычнага бяспамяцтва, калі карані падсечаныя – галіны сохнуць. Хай бы гісторык і дэпутат Ігар Марзалюк (родам ён таксама з Магілёўшчыны) звярнуў увагу на той герб. Я гляджу яго перадачы па БТ, яны патрыятычныя, для мяне ён чалавек паважаны. І для ўлады аўтарытэтны. Думаю, калі Марзалюк звернецца ў Магілёўскі аблвыканкам, там адрэагуюць адпаведным чынам.

**– Марзалюку няма калі займацца такімі «дробязямі» – ён з Каліноўскім ваюе, залічваючы яго ў «польскія мяцежнікі». Не шкодзіла б для нашых чыноўнікаў зладзіць абавязковыя курсы па нацыянальнай гісторыі. Не ведаюць жа ні герояў сваіх, ні гістарычных дат.**

– А скуль могуць даведацца? Вось я штогод купляю каляндар «Родны край», які выходзіць у дзяржвыдавецтве «Беларусь». Купіў і на 2020 год, стаў гартаць… 22 сакавіка – 100 гадоў выдатнаму паэту Аляксею Пысіну – у календары ні слова. Сёлета 120 гадоў з дня нараджэння класікаў Кузьмы Чорнага і Уладзіміра Дубоўкі – ні слова. Пра 110-я ўгодкі вялікай патрыёткі Беларусі Ларысы Геніюш – ні слова. Пра 80-годдзе мастака Аляксея Марачкіна – таксама ні слова. І гэта, я перакананы, свядома зроблена! Не проста выпадкова забыліся. Хочацца той «Родны край» у сметнік выкінуць. Затое, зірніце, які прыгожы беларускамоўны каляндар вісіць у мяне на сцяне – «Дзікая прырода Беларусі». Яго стварыў Віктар Казлоўскі – прафесійны ляснічы і фатограф, а выдаў Мінскі фотаклуб аматараў прыроды. Там здымкі проста фантастычныя – «Танец кахання жураvоў», «Белыя буслы на захадзе сонца», «Кліч аленя»...

**– Днямі ў «саюздрукаўскай» крамцы я разгарнуў пісьменніцкую газету «Літаратура і мастацтва» і не паверыў сваім вачам – наклад усяго 920 асобнікаў. Забалела на душы – мы ж усе выраслі на старонках «ЛіМа».**

– У «ЛіМе» я ўпершыню надрукаваўся як Левановіч (да таго быў Лявонавым) – у 1971-м, на 33-м годзе жыцця. І працаваў там. Дзесяцігоддзямі «ЛіМ» быў аўтарытэтнай і папулярнай не толькі ў пісьменніцкім асяроддзі газетай. А сёння ён фактычна загублены.

**– А чаму вы перасталі друкавацца ў тыднёвіку?**

– Дык я ж не ў тым пісьменніцкім саюзе. Газету да ручкі давёў старшыня прыўладнаага саюза Мікалай Чаргінец і яго памагатыя. Каб газета жыла, яна павінна друкаваць вострыя, праблемныя артыкулы. А дзе яны ў «ЛіМе»? Няма.

**– Як няма і прыстойных ганарараў. Але, калі азірнуцца ў далёкую гісторыю, нават геніі не заўсёды атрымлівалі адпаведныя свайму таленту ганарары. Скажам, здаралася, што Моцарту за музыку плацілі… дровамі.**

– Пра ганарары я ўжо забыўся. Пару гадоў таму «Нёман» надрукаваў маё эсэ «Самародак» – пра Масея Сяднёва, дык добра, што хоць у інтэрнэце выставілі. Я адгарнуў старонку – каля 2000 праглядаў. Чытацкія «лайкі» – вось і ўвесь «ганарар».

**– А калі б дроў прывезлі, як Моцарту, не адмовіліся б?**

– Вядома ж, не. Мне на зіму 5 кубаметраў трэба. Машына паколатых дроў каштуе 250 рублёў, амаль палова маёй пенсіі. У суседняй вёсцы Карпавічы прадпрымальнік нарыхтоўвае, зарабляе добрыя грошы. А пісьменніку як зарабляць? Вось летась у мяне выйшла кніжка гумару ў выдавецтве «Чатыры чвэрці». Як «ганарар» далі аўтару пяць асобнікаў. А штук 40 я сам купіў, каб сябрам падарыць.

**– Ведаю, што вы перад Новым годам прымалі на сваёй сядзібе замежную дэлегацыю са Швецыі. Як шведы знайшлі дарогу ў ваша лясное Пятрылава?**

– Так, прыязджала прэзідэнт шведскага Саюза пісьменнікаў Грэта Рутбёль, разам з Барысам Пятровічам і кіраўніцай Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына» Аленай Макоўскай. Мы стол шчодры накрылі, пасядзелі, песні паспявалі. Госця са Швецыі потым прызналася, што ў яе больш нідзе такой эмацыйнай сустрэчы не было. Расказала, што шведскія ўлады падтрымліваюць сваіх пісьменнікаў – і стыпендыямі (у тым ліку пажыццёвымі), і прэміямі. А ў нас нядаўна кіраўнік краіны ўручаў прэміі «За духоўнае адраджэнне» – пісьменнікаў не было ніводнага! Песні перадаюць па радыё – не абвяўляюць аўтараў. Вось такое стаўленне.

**– Днямі я перачытваў Юрыя Нагібіна – яго бліскучыя эсэ пра Хлебнікава, Платонава, Зошчанку – і напаткаў у адным з эсэ такую фразу: «Паэт Н. займае першаступеннае месца ў расійскай, а значыць, і ў сусветнай літаратуры». Як вам такі крытэрый?**

– Правільны, я з ім пагаджаюся. Найперш трэба мець павагу да сябе – і мы не аборай хлеб кроім! Трэба сказаць, што ў грамадстве да пісьменнікаў па-ранейшаму ставяцца з павагай. Раскажу адну гісторыю. Лета 2003 года, я еду ў Мінск на пахаванне Васіля Быкава. Пасля Радашковічаў паляцела счапленне. Стаю на ўзбочыне, галасую. Спыняецца іншамарка. Прашуся на буксір. Чалавек кажа: далёка цягнуць, часу няма. Я прызнаўся, куды еду, паказаў букет васількоў. «Тады я вас не пакіну», – гаспадар іншамаркі па мабільніку адмяніў нараду, дастаў буксірны трос і пацягнуў мяне ў Мінск. Гэта быў прадпрымальнік з Вілейкі – Уладзімір Адамавіч Усеня. Мы з ім потым пасябравалі, ён, дарэчы, дапамог з выданнем «Міленіума».

**– Быкава ведалі і паважалі яшчэ з савецкіх часоў. А як сёння ўвядоміцца маладому творцу? Праз інтэрнэт?**

– Інтэрнэт – магутны сродак папулярызацыі літаратуры. Калі мой раман «Шчыглы» выйшаў на рускай мове, ён адразу стаў прадавацца ў адной з расійскіх інтэрнэт-крамаў. Прычым за год пяць разоў цана падымалася! З 580 расійскіх рублёў да 700. Я проста абалдзеў. Хтосьці на маіх кнігах нажываецца, а мне – кукіш! Напісаў уладальніку кнігарні ліст, але нічога не дамогся. Мы пакуль не навучыліся прадаваць і прапагандаваць сябе. Вось у мяне дзве кніжкі выйшлі ў ЗША ў перакладзе на англійскую мову – «Ліквідатарава жонка» і «Палыновы вецер». Абедзве пераклаў Ігар Казак, сын вядомага паэта на эміграцыі Рыгора Крушыны. Дарэчы, разам са славістам Джозэфам Мозурам ён пераклаў і кніжку прыпавесцяў Васіля Быкава. Чалавек прасоўвае ў свеце беларускую літаратуру – чаму гэтага не заўважае наша дзяржава?

**– Даўно наспеў час заснаваць у Беларусі ўстанову накшталт Польскага інстытута ці Інстытута Гётэ, якія папулярызуюць у свеце свае культуры. У Мінску штогод пры іх падтрымцы выходзяць дзясяткі кніг.**

– Ну так, мы замежнікаў перакладаем – з іхняй жа дапамогай, і яны нас задарма перакладаць не будуць. Помню, Янка Сіпакоў бліскуча пераклаў «Лісце травы» Уолта Уітмана, выйшла ў «Мастацкай літаратуры». А ці выйшла ў ЗША кніжка Сіпакова? Не, дудкі! А колькі мы французскай літаратуры ў сябе выдалі! А французы нас выдалі? Ну, можа, пару кніг. Значыць, мы пакуль не ўмеем сябе паказаць свету, на самадзейнасці далёка не заедзеш. Калі паляка Чэслава Мілаша на Нобеля вылучылі, уся Польшча за яго змагалася. І ён атрымаў прэмію.

**– Вы аўтамабіліст са шматгадовым стажам, значыць, сочыце за беларуска-расійскім нафтавым канфліктам. А ці гатовы плаціць за бензін па рынкавай цане, як ва ўсім свеце?**

– Давядзецца плаціць, нічога не паробіш. Як плацяць Літва, Украіна – не самыя багатыя краіны. Затое нас Расія больш не будзе абзываць нахлебнікамі, і мы будзем спаць спакойна, не перажываючы, далучаць нас мяккай сілай ці захопяць гвалтоўна.

**– У вас у прыбудоўцы на сцяне вісіць паляўнічая стрэльба. Ходзіце на зайцоў?**

– Раней часта хадзіў і на зайцоў, і на качак, цяпер зрэдку. Хоць паляваць ёсць на каго. У нас проста над хатай лётаюць слонкі (вальдшнепы). Выйдзеш вясновым вечарам, а яны – хор-хор-хор-хор… Нібыта пытаюцца, ці хораша ляцяць. Страляць у вёсцы забаронена, адышоўся я неяк у поле і разы чатыры пальнуў. Не пацэліў і думаю: слава Богу! Хай жывуць.

**– А каб не «захапілі гвалтоўна», у паўстанцы гатовы пайсці?**

– Каб «паказаць, чаго варт стары Талаш»? Страляць я яшчэ ўмею, рука цвёрдая. Але крый Божа, каб давялося гэта рабіць! Лепш спакойна жыць і працаваць на сваёй зямлі, як сказана ў вершы Янкі Купалы: *«Хай злыдні над намі скрыгочуць зубамі – / Любі сваю ніву, свой край / І, колькі ёсць сілы, да самай магілы / Ары, баранюй, засявай!»* Вось гэтымі словамі я ў сваім жыцці і кіруюся.

**Міхась СКОБЛА.**

ВІНШУЕМ!

## Васіль Жуковіч – ганаровы грамадзянін Камянеччыны

У сувязі з 80-годдзем Камянецкага раёна паэт Васіль Жуковіч, пастаянны аўтар «Народнай Волі», удастоены звання ганаровы грамадзянін Камянеччыны – за адлюстраванне ў сваіх творах гісторыі, непаўторнай прыгажосці гэтых мясцін, аповеды пра выбітных асоб краю.

Падчас урачыстасці быў уручаны адпаведны дыплом, а таксама вытканая ў народных традыцыях персанальная стужка з ягоным імем.

**Аляўціна ВЯЧОРКА.**

НОВЫЯ ІМЁНЫ

## Ці заззяе футбаліст Ілля Шкурын у маскоўскім ЦСКА?

*Лепшы бамбардзір апошняга чэмпіянату Беларусі па футболе распавёў пра сябе і пра тое, як ён трапіў у расійскі клуб.*

У мінулым сезоне 20-гадовы Ілля Шкурын гуляў за мінскі клуб «Энергетык-БДУ», які закончыў сезон на 12-м месцы. Ілля забіў 19 галоў і стаў лепшым бамбардзірам першынства (так шмат не забівалі з 2007 года).

Але зараз паступіла запрашэнне ў маскоўскі ЦСКА, які трэніруе былы настаўнік барысаўскага БАТЭ **Віктар Ганчарэнка**. Так што выбар, напэўна, не выпадковы.

*«Я чуў пра тое, што мяне сватаюць у ЦСКА, але асабіста да мяне гэтыя чуткі дайшлі ўжо на канчатковым этапе*, – кажа **Ілля Шкурын**. – *Віктар Міхайлавіч Ганчарэнка патэлефанаваў мне і сказаў аб прапанове. А наконт таго, як ішлі перамовы паміж агентамі і клубам, я нават не ведаю».*



Ілля Шкурын – выхаванец віцебскага футбола, яго першы трэнер – Мікалай Лазін. Ён прыйшоў у спартзалу, дзе Ілля з бацькам проста праводзілі час.

*«Мікалай Мікалаевіч прыйшоў, запрасіў у футбольную школу*, – працягвае Ілля Шкурын. – *Я моцна загарэўся. Бацькі не ведалі, куды мяне аддаць, што рабіць з шасцігадовым дзіцем, таму сказалі: чаму б і не? Паспрабуй. У мяне атрымлівалася сапраўды нядрэнна.*

*Праз нейкі час з Мікалаем Мікалаевічам здарылася няшчасце. І я вельмі хацеў патрапіць да яго сына – Кірыла Мікалаевіча. Так з ім і працягваў трэніравацца, пакуль яго, калі так можна сказаць, не папрасілі з футбольнай школы. Але я лічу, што гэта выдатны дзіцячы трэнер».*

Кантракт з ЦСКА Ілля Шкурын падпісаў на 4,5 года. Паглядзім, як праявіць сябе беларускі ігрок у новым клубе.

**Сяргей НІКАНОРАЎ.**

